PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 9 (2233) Год XLIV Беласток 28 лютага 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Новыя заставы

**Пра новыя пагранзаставы на дзяржаўнай граніцы з Рэспублікай Беларусь у межах Падляшскага ваяводства расказвае прэс-сакратар Падляшскага аддзялення Гранічнай аховы РП падпалкоўнік Станіслаў ФІРЛЕЙ.**

За апошнія чатыры гады здалі мы ў карыстанне тры новыя пагранзаставы на граніцы з Беларуссю: у лютым 1995 года ў Крынках, у ліпені 1996 года ў Мельніку і ў лютым 1997 года ў Новым Двары. Раней, у 1993—95 гг. ушчыльнялі мы граніцу з Літвою, узводзячы новыя заставы ў Віжайнах і Шыплішках. Сёлета поўным ходам запускаем пабудову заставаў у Пласцы і Нараўцы, а пазней у Міхалове і Дубічах-Царкоўных. У дзвюх першых мясцовасцях выкупілі мы пляцы і паставім новыя будынкі, а ў апошніх амаль са стопрацэнтнай упэўненасцю зробім тое ж. Раней прымяркоўвалі мы да нашых патрэб існуючыя ўжо аб'екты, напрыклад, у Крынках будынкі былога ПГРу, а ў Мельніку і Новым Двары будынкі ранейшых ветэрынарных лячэбніц. Тое, што мы цяпер ставім свае будынкі, не выклікана нейкай рэарыентацыяй нашай палітыкі, а толькі тым, што няма там адпаведных для нашых патрэб аб'ектаў; некаторыя самаўрады прапанавалі нам іх нават, але яны нам не падыходзяць.

Найперш ушчыльнілі мы граніцу з Літвою, бо літоўскі адрэзак дзяржаўнай мяжы быў найбольш насычаны злачыннасцю. Вынікала гэта з таго, што літоўцы адказаліся ад савецкай „сістэмы" і невысокага прафесіянальнага ўзроўню тамашніх ахоўнікаў граніцы ў параўнанні, напрыклад, з беларускімі. Аднак ахову граніцы з Беларуссю мы таксама ўзмацняем, бо мяняюцца напрамкі гранічнай злачыннасці, напрыклад, у апошні час з'явілася многа груп нелегальных азіяцкіх перабежчыкаў на паўднёвай граніцы краіны: са Славакіяй і Чэхіяй. Узмацняем ахову ўсёй усходняй мяжы, бо неўзабаве стане яна граніцай аб'яднанай Еўропы; робім гэта, дарэчы, пры вялікай долі фінансавання Еўрапейскім Саюзам. Вось сёння (размова адбылася 12 лютага — А. В.) прымаем у нас дэлегацыю Бундэстага, якая знаёміцца з выкарыстаннем намі прызначаных імі сродкаў.

Сёння на паасобныя заставы прыпадаюць занадта доўгія адрэзкі граніцы. Хочам давесці да таго, каб адна пагранзастава ахоўвала ад пятнаццаці да дваццаці кіламетраў граніцы. Велічыня гарнізона будзе залежаць ад даўжыні ахоўваемага адрэзка і насычанасці яго злачыннасцю; у сярэднім будзе гэта ад дваццаці пяці да трыццаці пяці прафесіянальных салдат. Службовыя кватэры прадбачваюцца толькі некальким асноўным афіцэрам, рэшта асабовага складу зможа кватэры наймаць.

**Аляксандр Вярбіцкі**




*На заканчэнне гала-канцэрта выступіў беларускі прафесійны калектыў „Сваякі". (Пра гала-канцэрт чытайце на стар. 5.)* Фота Сяргея Грынявіцкага

# Быць поўным чалавекам

**Інтэрв'ю з Аліцыяй ПЕТРУЧУК, лаўрэаткай конкурсу на радыё- і тэлерэпартаж „Premios Ondas" у Барселоне. Рэпартаж пад загалоўкам „Cały wasz" расказвае пра візіт Аляксандра Кваснеўскага ў Махнатым 31.08.1997 г. Раней заваяваў ён II месца ў Агульнапольскім конкурсе „Польшча і свет" за 1997 год. Аліцыя Петручук рэалізавала яго разам з Агнешкай Чаркоўскай з Радыё Беласток.**

***— Як адчувае сябе лаўрэатка міжнароднай прэміі, прозвішча якой расславілі сродкі масавай інфармацыі?***

— Узнагарода, зразумела, вельмі мяне ўсцешыла. Але ў асноўным нічога не памянялася. Далей працую ў інфармацыйнай праграме.

***— Менавіта, слухачы Радыё Беласток ведаюць цябе як лектара інфармацыйнай праграмы. Адкуль зацікаўленне рэпартажам?***

— У сваім жыцці я зрабіла недзе пяць ці шэсць рэпартажаў, ды з рознымі асобамі. Дарэчы, кожны радыёжурналіст марыць пра добры рэпартаж. Ну, але гэта складаны жанр, гэта не так, што прыйдзеш на радыё, сядзеш і зробіш рэпартаж. Трэба найперш засвоіць тэхнічны бок, навучыцца запісваць не толькі гук, але і вобраз, прастору, пах ці колер. Пазней сабраны матэрыял трэба ператварыць не толькі ў інтэлектуальны спосаб, але і тэхнічны. Проста, каб слухач не толькі чуў і разумеў змест, але і каштаваў яго, бачыў, перажываў.

***— Хто для цябе з'яўляецца ўзорам рэпартажыста?***

— Радыё Беласток можа ганарыцца рэдакцыяй рэпартажу, тут, проста, можна многаму навучыцца ад старэйшых, вопытных сяброў. Маёй любімай аўтаркай рэпартажаў з'яўляецца Анна Багдановіч.

***— Рэпартаж пра пабыўку Аляксандра Кваснеўскага ў Махнатым рэалізавала ты з Агнешкай Чаркоўскай.***

— З Агнешкай Чаркоўскай, таленавітай журналісткай, раней я зрабіла рэпартаж пра Белавежу. На тэму візіту Кваснеўскага мы патрапілі, можна сказаць, выпадкова. Проста шэф інфармацыйнай праграмы прапанаваў нам паездку ў Махнатае, пабачыць як людзі рыхтуюцца да візіту галавы дзяржавы. Тэма паказалася мне займальнай, бо ведаю людзей з Махнатага, а другая справа — у той дзень мой сябра Раман Варшыцкі жаніўся. Пры нагодзе мы згулялі вяселле. Словам, было вельмі сімпатычна.

***— У пэўны момант у рэпартажы ты гаворыш з людзьмі па-падляшску?***

— Я сама нарадзілася ў Гайнаўцы, мама з Новага Беразова, бацька з Курашава, а дакладней — з хутара паміж Курашавам і Лядамі. Мой дзед не гаварыў на польскай мове і я заўсёды старалася з ім і бабуляй гаварыць па-свойму. Дурнавата, думаю, гаварыць з людзьмі з вёскі па-польску, калі ведаеш, што яны карыстаюцца іншай мовай.

***— У перадачы „Пад знакам Пагоні" ты карыстаешся беларускай літаратурнай мовай?***

— Я выпускніца беларускага ліцэя ў Гайнаўцы, таксама ў студэнцкія гады

[працяг ☞ 5]

## Першыя крокі

— Лічу, што адной з натуральных задач павятовага самаўрада павінна быць падтрыманне культуры звязанай са сваім рэгіёнам, а ў нашым выпадку гэта перад усім культура беларуская і праваслаўная.

[інтэрв'ю са старастам ☞ 3]

## Шляхта-галота пры ўладзе

Пасля 1989 г. шляхта-галота нанава атрымала назад сваю дзяржаву. Раней атрымала яна асаблівую грамадзянскую адукацыю. Найважнейшай прыкметай камуністычнага выхавання стала адабрэнне шызафрэнічнага стану як нейкай агульнапрынятай нормы. Уладу, напрыклад, пераймаюць сарганізаваныя групы, якія пасля запаўняюць сваімі салдатамі захопленае ў выніку дэмакратычных выбараў месца і пачынаюць цягнуць да сябе ўсё магчымае.

[каментарый ☞ 4]

## Роздумы пра годнасць

Можна падумаць, што беларусы, якія на сваёй зямлі ад стагоддзяў заставаліся парабкамі ў акупантаў, надалей успрымаюць паняцце асабістай годнасці паводле вучэння Маякоўскага: „адзінка — нуль", значыць, нешта малапатрэбнае, не раўняючы, калок у плоце. Маякоўскі ўсё ж памыляўся. Нават мільён нулёў гэта толькі нуль...

[рэфлексія ☞ 4]

## „Залапацца на галю..."

Гала-канцэрт быў адметны, але найбольш падкупляла тая невідочная нітка сімпатыі між выступаючымі і публікай. Людзі прывыклі ўжо да фестывалю беларускай песні ў Беластоку і чакаюць гэтай імпрэзы як нечага свайго, блізкага сэрцу, без чаго абысціся ніяк немагчыма.

[падзея ☞ 5]

## Сірочая хатка

Гэта меў быць наш супольны дом, у якім будуць практыкавацца традыцыі шматпакаленнавай сям'і, перадавацца дзецям добрыя вартасці — павага да старэйшых, да працы, сумленнасць... На жаль, так не стала. Я палічыла, што настойванне на смяротна хворага чалавека каб пісаў тастамент — гэта негуманна, — кажа Вольга.

[канфлікт ☞ 9]

# Беларусь — беларусы

## Як палічаць беларусаў?

16 лютага ў Беларусі распачаўся перапіс насельніцтва. Ён працягнецца адзін тыдзень. Папярэднія вынікі будуць вядомы толькі восенню гэтага года. Але ўжо зараз у нацыянальна свядомай часткі беларускага насельніцтва расце ўпэўненасць, што атрыманыя лічбы не будуць адпавядаць праўдзе. Напрыклад, старшыня Мінскай гарадской рады Таварыства беларускай мовы прафесар Аляксей Саламонаў сцвярджае: „Гэта не сапраўдны перапіс насельніцтва, а павярхоўная акцыя, скіраваная супраць этнічных і дзяржаўных асноў беларускасці, таму яго вынікі будуць абавязкова адменены" („Наша слова", № 5, 1999 г.).

Такія перакананні грунтуюцца на фактах праяў антыбеларускай палітыкі ўладаў, што папярэднічалі падрыхтоўцы і правядзенню перапісу. Так, з канца мінулага года, а дакладней з моманту падпісання Лукашэнкам і Ельцыным дамовы пра аб'яднанне Беларусі і Расіі ў адну краіну, дзяржаўная прапаганда пачала даказваць, што розніцы паміж беларусамі і рускімі няма, бо гэта адзін народ. Сам Аляксандр Лукашэнка яшчэ 18 снежня 1998 года заявіў, што ў Беларусі жыве 25% этнічных рускіх, 10% палякаў і 25% людзей з нявызначанай нацыянальнасцю (гэта значыць дзяцей ад змешаных шлюбаў). Калі ўлічыць, што на Беларусі таксама жывуць украінцы, татары, яўрэі ды іншыя, дык, па словах прэзідэнта, атрымліваецца, што беларусы ў сябе на радзіме з'яўляюцца нацыянальнай меншасцю. Але гэта яўна не адпавядае вынікам апошняга перапісу насельніцтва за 1989 год. Тады ў часы, калі ў СССР якраз расквітала дэмакратыя, беларусамі сябе назвалі 77,9% насельніцтва Беларусі, рускімі 13,2%, палякамі 4,1%, украінцамі 2,9% і г.д. Магчыма і такія лічбы задаволілі б інтэграцыйныя амбіцыі прэзідэнта, але дзесяць гадоў таму пераважная большасць насельніцтва краіны назвала роднай моваю беларускую. Гэта ніяк не стасуецца з неаднаразовымі выказваннямі Лукашэнкі і яго расійскіх аднадумцаў, што ў беларусаў і рускіх адзіная мова.

Выглядае на тое, што ўсе непажаданыя для прэзідэнта факты павінен прыхаваць актуальны перапіс насельніцтва. Ці не таму ў першапачатковым варыянце перапіснога ліста пытанне пра родную мову наогул адсутнічала. Замест яго прапаноўвалася адказаць: „На якой мове вы звычайна размаўляеце ў хаце?" Толькі пасля абурэння грамадскасці пытанне пра мову было пастаўлена. Але і папярэдняе засталося. Таксама перапісчыкаў цікавіць, якой іншай моваю валодае грамадзянін краіны. Ва ўмовах панавання рускай мовы ва ўсіх сферах жыцця Беларусі няцяжка здагадацца, што людзі будуць адказваць на такія запыты (нават, калі большасць людзей не адмовіцца ад роднай мовы, усё роўна будуць падставы сцвердзіць, што руская мова можа замяніць беларускую, бо ёй усе валодаюць).

Першыя дні перапісу паказалі, што нават і пры гэтых умовах магчымая фальсіфікацыя вынікаў апытання. Некалькі чалавек сталага ўзросту паведамілі аўтару артыкула, што перапісчык пры іх запаўняў перапісны ліст нават не задаючы пытанняў і толькі пасля патрабавання запісаць роднай моваю беларускую, зрабіў гэта. Але і ў выпадку сумленнага выканання сваіх абавязкаў людзьмі, што займаюцца непасрэдным апытаннем людзей, вынікі перапісу нікім, акрамя дзяржавы, не будуць кантралявацца. А як сённяшнія беларускія ўлады ўмеюць лічыць, беларусы добра пераканаліся на прэзідэнцкіх рэферэндумах.

**Зміцер Кісель**

## Міліцэйскім ботам — за любоў да Еўропы

Вечарам 14 лютага ў Мінску міліцыяй і прэзідэнцкімі спецслужбамі было гвалтоўна спынена святочнае шэсце моладзі, якое прысвячалася Дню закаханых. У выніку сутычак з прадстаўнікамі праваахоўных органаў шмат юнакоў было жорстка збіта. Некалькі дзесяткаў арыштавана.

У Дзень святога Валянціна, згодна з трохгадовай традыцыяй, сябры Маладога фронту праводзілі акцыю пад назвай „Беларусь у Еўропу". Каля паўтысячы хлопцаў і дзяўчат планавалі абысці пасольствы еўрапейскіх краін і перадаць туды адмысловае „валянцінкавае пасланне". У ім, у прыватнасці, сцвярджалася: „Мы, беларуская моладзь, звяртаемся да вас як да прадстаўнікоў вольнага і дэмакратычнага свету. У гэты дзень, трымаючыся старадаўняй традыцыі Дня святога Валянціна, калі моладзь ва ўсёй Еўропе выказвае словы кахання і любові, мы кажам: Мы любім Беларусь! Мы любім Еўропу!" Моладзь звярнулася да ўладаў заходніх дзяржаў падтрымаць незалежнасць Беларусі і заступіцца за палітвязняў лукашэнкаўскага рэжыму.

Шэсце маладафронтаўцаў пачалося ад плошчы Свабоды, адкуль святочная калона накіравалася да пасольства Францыі. Прадстаўнікі гэтай краіны першымі атрымалі пасланне беларускай моладзі. Каля літоўскага і эстонскага пасольстваў моладзь наладзіла святочны феерверк. Удзельнікі шэсця паспелі наведаць польскае, англійскае і італьянскае дыпламатычныя прадстаўніцтвы ў Беларусі. Але калі моладзь выйшла на праспект Скарыны, на ўдзельнікаў акцыі напалі міліцыянеры і людзі ў цывільным. Асабліва шчыравалі апошнія. Згодна з прэс-рэлізам праваабарончага цэнтра „Вясна-96", у грамадскую прыёмную гэтай арганізацыі звярнуліся непаўналетнія Зміцер Каспяровіч і Фёдар Жывалеўскі.

— На перакрыжаванні вуліцы Янкі Купалы і праспекта Скарыны я быў затрыманы невядомымі асобамі ў цывільным, — паведаміў Фёдар. — Даведацца іхнія прозвішчы было немагчыма. Пасля я быў збіты ў машыне трыма з іх.

Па словах Зміцера, яго таксама схапілі невядомыя людзі і, трымаючы за рукі і ногі, зацягнулі ў Ленінскі аддзел міліцыі.

15 лютага ў Мінску адбываліся суды над паўналетнімі ўдзельнікамі святкавання Дня закаханых. Алесь Піткевіч, Андрэй Лях, Сяргей Прасяны і Сяргей Пашкевіч атрымалі папярэджанне. Уладзімір Антонаў асуджаны на 5 сутак арышту. Яўген Скочка — 10 сутак.

Але пацярпела не толькі моладзь. Карэспандэнт „Беларускай газеты" Сяргей Міхальчык, які быў сведкам збівання Алеся Піткевіча, некалькі гадзін правёў у міліцэйскім пастарунку. А назіральнік „Вясны-96" сам быў збіты. 50-гадовага Ільяша Банэля і 45-гадовага Казіміра Кучуна за тое, што яны спрабавалі бараніць дзяцей ад міліцыі, аштрафавалі. Іх абвінавацілі... у хуліганстве.

**Зміцер Кісель**

## Ва ўладаў не вытрымалі нервы

Беларускія ўлады распачалі рэпрэсіі супраць арганізатараў выбараў прэзідэнта Беларусі, якія, згодна з пастановаю Цэнтральнай камісіі па выбарах на чале з Віктарам Ганчаром, павінны адбыцца 16 мая гэтага года.

Усё пачалося 11 лютага ў Гомелі. Адразу пасля рабочай сустрэчы з Віктарам Ганчаром міліцыяй былі затрыманы два чалавекі, якія неслі ў руках плакаты-абвесткі пра маючыя адбыцца выбары. На наступны дзень у офісе гомельскай філіі Беларускага Хельсінскага камітэта было канфіскавана 14 тысяч такіх плакатаў. А 13 лютага Віктар Ганчар атрымаў ад КДБ афіцыйнае папярэджанне, што яго дзеянні па арганізацыі выбараў прэзідэнта правакуюць дэстабілізацыю грамадска-палітычнага становішча ў краіне і могуць прывесці да злачынства прадугледжанага часткай 1 артыкула 61-1 (Змова з мэтай захопу дзяржаўнай улады) Крымінальнага кодэкса Беларусі.

Адначасова амаль усе незалежныя беларускія газеты атрымалі ад Дзяржкамітэта па друку папярэджанне за тое, што надрукавалі інфармацыю пра планаваныя апазіцыяй выбары. Старшыня камітэта Падгайны разглядае гэта, як „заклік да захопу ўлады". Калі газеты будуць і надалей друкаваць абвесткі апазіцыйнага Цэнтрвыбаркама, яны могуць быць закрыты.

Магчыма, такім чынам улады хацелі запалохаць тых грамадзян Беларусі, якія прымаюць удзел у працы створаных Цэнтрвыбаркамам камісій па выбарах прэзідэнта. Аднак падобна на тое, што апазіцыі зроблена добрая паслуга. Калі да 11 лютага большасць насельніцтва Беларусі амаль нічога не ведала пра дзейнасць вышэйзгаданых камісій (тыражы незалежных выданняў вельмі малыя), дык зараз, дзякуючы дзяржаўнаму тэлебачанню і радыё, што шырока асвятлялі гэтыя падзеі, пра планаваныя апазіцыяй выбары ведаюць усе. **(зк)**

З беларускага друку

## Куба нам дапаможа

**Апошнім часам у гродзенскіх крамах не ўбачыш айчыннага цукру. Праўда, у некаторых гандлёвых кропках ёсць германскі, аднак цана, мякка кажучы, здзіўляе — каля 230 тысяч рублёў за кілаграм.**

Зразумела, што яго практычна не бяруць. Дарэчы, на рынку ў той жа дзень можна было купіць цукар па 120 тысяч рублёў, аднак калі возьмеш цэлы мяшок.

Па словах намесніка дырэктара Скідальскага цукровага камбіната Сяргея Уласіка, 23 студзеня на прадпрыемстве закончылі перапрацоўку буракоў. Затым спатрэбілася невялікая „паўза", каб падрыхтаваць абсталяванне для работы з сырцом, і днямі з яго ўжо атрымалі першую прадукцыю. 10 тысяч тон кубінскай і бразільскай сыравіны камбінату хопіць прыкладна на 20 дзён, яшчэ цеплаход з ёй на падыходзе да прыбалтыйскага порта. Такім чынам, запэўнівае С. Уласік, будзем з айчынным цукрам. Калі? Адразу, як у сталіцы зацвердзяць цану. Відавочна, што скідальскі цукар будзе значна таннейшы за імпартны. Але і ранейшымі (79 тысяч рублёў за кілаграм) цэннікі ў крамах не застануцца.

**Барыс Пракопчык**

*„Звязда" № 17, 11 лютага 1999 г.*

## Брытанскі суд на Беларусі

15 лютага ў Беларусь прыехаў Цэнтральны суд па крымінальных справах Вялікабрытаніі. 12 прысяжных, 6 адвакатаў і 6 пракурораў правялі выязное пасяджэнне па працэсе над грамадзянінам Вялікабрытаніі Андрэем Саванюком, які ў час вайны быў камендантам паліцыі ў мястэчку Дамачаве. Выезд Лонданскага суда за мяжу з'яўляецца першым падобным выпадкам за ўсю гісторыю брытанскага правасуддзя.

Паездка ў Беларусь адбылася па патрабаванні адвакатаў Саванюка. Ён абвінавачваецца ва ўдзеле ў масавых забойствах яўрэйскага насельніцтва ў Дамачаве ў 1942 годзе. Зараз Андрэю Саванюку 77 гадоў, пяцьдзесят тры з іх пражыў у Лондане, дзе працаваў кантралёрам на чыгунцы. Сваю віну ў ваенных злачынствах ён адмаўляе.

16 лютага ў Дамачаве, якое знаходзіцца на мяжы з Польшчай, 50 кіламетраў на поўдзень ад Брэста, адбылося выязное пасяджэнне Лонданскага суда. Удзельнікі працэсу агледзелі месца расстрэлу яўрэяў, апыталі сведкаў падзей. 17 лютага суд з'ехаў з Беларусі.

Дзяржаўныя мас-медыі Беларусі шырока асвятлялі прыезд брытанцаў. Вельмі верагодна, што выпадак з Андрэем Саванюком будзе выкарыстаны прапагандысцкім апаратам Аляксандра Лукашэнкі супраць унутранай апазіцыі і беларускай эміграцыі. Хацця ў часы вайны Дамачава ўваходзіла ў райхскамісарыят Украіна і ніякіх беларускіх арганізацый там быць не магло, дыктары беларускага тэлебачання называюць Саванюка „беларускім паліцэйскім". **(зк)**

## Паўлітроўка даганяе долар

З учарашняга дня цана паўлітроўкі 40-градуснай ушчыльную наблізілася да рэальнага курса долара, які ў пятніцу 5 лютага вагаўся ў межах 275—290 рублёў за адзін „зялёны".

У групе найбольш дарагіх гарэлак застаюцца брэсцкія „Беларусь сінявокая" — 238.400 і „Люкс" — 236.100 рублёў, а таксама мінскія „Крышталь-Люкс" — 235.900 і „Белая Русь" — 235.700 рублёў. Далей па „рэйтынгу" ідзе „Крышталь-100" — 225.500 „зайчыкаў". Аднолькава — 220.500 рублёў — каштуюць „Сталіца" і „Пшанічная", „Маскоўская" і „Сталічная". Па 220 тысяч рублёў прыйдзецца выкладаць за паўлітроўку „Рускай" ці „Палескай". Самай таннай застаюцца „Два буслы" — 215.700 рублёў.

**Уладзімір Здановіч**

*„Звязда" № 15, 6 лютага 1999 г.*

# Першыя крокі



**Размова са старастам Гайнаўскага павета Уладзімірам ПЯТРОЧУКАМ.**

***— Хаця павятовыя ўстановы дзейнічаюць са студзеня, Вы пачалі працаваць ужо ў лістападзе. Якія складанасці прыходзіцца Вам пераадольваць у ходзе ўкаранення адміністрацыйнай рэформы?***

— Першыя крокі ў павеце звязаны былі з арганізацыяй працы стараства і павятовых устаноў. Задаволены я, што ад 1 студзеня не было ніякага перапынку, што афармлялі мы ўсе справы, з якімі прыходзілі нашы наведвальнікі. Складанасці паявіліся ў сувязі з бюджэтам. Хаця мы самі павінны ствараць бюджэт, то міністэрская бюджэтная прапанова акрэслівае ўжо і даходы, і расходы, сярод якіх толькі некаторыя можна нам мяняць. Зусім свабодна выдаткоўваць можам папаўняючую субвенцыю, якая ў гэтым годзе складае суму 550 тыс. зл. і 1 працэнт удзелу ў падатку ад даходаў грамадства, што складае суму 290 тыс. зл. У павеце няма, так як у гміне, уласных падаткаў, якія можна было б выдаткоўваць паводле ўласных меркаванняў. Выдаткі ў гэтай бюджэтнай прапанове занізкія ў параўнанні да патрэб прынамсі на 20 працэнтаў. Калі ў міністэрстве прапануюць выдаткоўваць нам каля 23 мільёнаў зл., то мінімальныя нашыя патрэбы складаюць каля 28 мільёнаў зл. Найбольшы недахоп сродкаў адчуваем у асвеце. Не будзе дадатковых грошай ні на інвестыцыі, ні на рамонты, а можа быць малавата і на звычайную працу. Субвенцыі для школ вылічаліся на падставе спецыяльных алгарытмаў, хаця не ведаем, як гэта праверыць. Расходы лічылі мы па падставе сённяшніх выдаткаў і паводле нашых меркаванняў не хапае нам грошай на інтэрнаты і Дом дзіцяці ў Белавежы. Не прадбачаны асобныя выдаткі на культуру. Няма сродкаў на публічную бібліятэку. У гэтым выпадку думаем яшчэ размаўляць з гарадскімі ўладамі, каб Гайнаўскую гарадскую бібліятэку прыстасаваць у павятовую ўстанову. Няма таксама выдзеленых сродкаў на працу рады, камісій і ўтрыманне адміністрацыі. У такой сітуацыі трэба будзе карыстацца папаўняючымі субвенцыямі. Выступілі мы ў Міністэрства фінансаў з просьбай папоўніць наш бюджэт на 4 мільёны 707 тысяч злотых.

***— Калі такія ў вас фінансавыя складанасці, дык якія будуць дыеты для радных?***

— Радныя атрымаюць 328 зл. у месяц з папаўняючай субвенцыі і не будуць ужо браць грошай за паасобныя пасяджэнні і даезды. Грамадская праца і заангажаванасць радных — неацэнныя, а дыеты — гэта толькі невялікая кампенсацыя. Некаторыя думаюць, што на дыетах можна было б зрабіць вялікія ашчаднасці ў бюджэце, а ў сапраўднасці гэтых грошай не хопіць нават на кавалак асфальту на дарозе.

***— Рынак працы на Гайнаўшчыне абмежаваны і многія думалі, што знойдуць працу ў павятовых структурах. Колькі ў сапраўднасці створыцца новых месц працы?***

— Сапраўды, 1000-1500 месц працы дазволіла б абмежаваць у нас беспрацоўе. У старастве прынялі мы на працу толькі 2 асобы і 12 асоб у новыя намі фінансаваныя ўстановы. Ляжыць у нас каля 300 прашэнняў, а знойдзе ў нас працу яшчэ 10-15 асоб. Паўсталі ў нас: Управа павятовых дарог, Павятовы цэнтр дапамогі для сям'і, які будзе наглядаць за грамадскай апекай, Абслуга фонду інвалідаў, якая да гэтай пары знаходзіцца ў структуры Ваяводскай установы працы і Павятовы інспектарат ветэрынарыі. Статус павятовых набылі таксама і іншыя ўстановы: сярэднія і спецыяльныя школы, паліцыя, пажарная ахова і санітарны кантроль. Усе яны будуць фінансавацца з нашага бюджэту, але будуць надалей самастойнымі. Толькі ў выпадку Санітарна-эпідэміялагічнай станцыі галоўнага інспектара назначае староста ў дамоўленасці з ваяводскім інспектарам.

***— У час пасяджэнняў Радаў павета і горада многа гаварылася аб стварэнні ў Гайнаўцы раённага суда і казначэйскага аддзела.***

— Напэўна ў 2000 годзе паўстане гродскі суд, але намагаемся таксама стварыць і акруговы суд. Стварэнне казначэйскага аддзела падтрымоўваецца Беластоцкім казначэйскім аддзелам, але маўчыць Міністэрства фінансаў. У гэтую справу ўключым яшчэ ўсе гмінныя ўправы і рады на Гайнаўшчыне.

***— Праца ў радзе гэта перад усім праца ў камісіях. Ці ўсе радныя могуць працаваць у тых камісіях, у якіх хацелі?***

— Стварылі мы чатыры камісіі і ўсе радныя, згодна з рэгламентам, самі запісаліся ў тыя камісіі, у якіх хацелі працаваць. Хаця ў паасобных камісіях розная колькасць радных, мы не рабілі ніякіх абмежаванняў, тым болей для апазіцыі. Калі і апазіцыя прадставіць нейкія рацыянальныя для павета прапановы, сам іх буду падтрымліваць.

***— Жыхары Гайнаўскага павета гэта ў асноўным беларусы. Ці знойдуцца сродкі на развіццё беларускай культуры?***

— Лічу, што адной з натуральных задач павятовага самаўрада павінна быць падтрыманне культуры звязанай са сваім рэгіёнам, а ў нашым выпадку гэта перад усім культура беларуская і праваслаўная. Такія элементы, як Фестываль царкоўнай музыкі, мясцовыя калектывы і фэсты ўжо ўраслі ў нашу традыцыю і павінны быць выкарыстаны, каб паказаць наш павет у краіне і за яе межамі. З сімпатыяй успамінаю калектыў „Чарамшына", які прапагандуе мясцовы фальклор. Асобнай справай з'яўляецца будова Беларускага музея, бо яна перарастае нашы магчымасці і разам з Грамадскім камітэтам пабудовы Музея будзем намагацца, каб завяршэнне пабудовы ўвесці як інвестыцыю ў ваяводскі бюджэт. Шкада, каб такі будынак стаяў, калі так нямнога засталося да заканчэння пабудовы. Падтрымліваю я таксама прапанову Беларускага ліцэя, каб стварыць у ім гімназію.

Каб прыцягнуць у павет нейкі капітал і турыстаў, думаем сур'ёзна падысці да прапагандавання нашай культуры і паказвання нашага рэгіёна ў краіне. Думаем прысутнічаць на турыстычных і інвестыцыйных кірмашах, паказвацца ў сродках масавай інфармацыі, выпускаць буклеты, а нават сваю газету.

***— Дзякую за размову.***

**Гутарыў Аляксей Мароз**

*Фота аўтара*

# Гутарка з камендантам

Як не пагутарыць, калі здараецца нагода, пра розныя вясковыя справы з вельмі цікавым вясковым дзеячам, сябрам са школьнай парты Аляксеем Герасімюком — камендантам пажарнай каманды, радным Гайнаўскай гміны і солтысам Махнатага, што на Гайнаўшчыне. Такая нагода здарылася, калі пабываў я на бацькаўшчыне ў час праваслаўных Каляд.

На гутарку дамовіўся я з сябрам раніцай на трэці дзень Каляд, калі Аляксей быў больш свабодны — нягледзячы на свята каля жывёлы трэба хадзіць безупынна, жывёла не святкуе.

— Гаспадаркай яшчэ займаюся, хаця я ўжо на пенсіі. Проста не люблю сядзець без работы. Да таго займаюся яшчэ і грамадскімі справамі, — пачынае гутарку Аляксей Герасімюк.

Мяне, перш за ўсё, цікавіла рэфармаванне краіны не на вярхах улады, а ў глыбінцы: роля гміны, паветаў, новых ваяводстваў і ўдзел беларусаў у мясцовай уладзе. Як бачаць яны нацыянальныя справы, калі школьная моладзь і дзеці ад калыскі не гавораць па-свойму, а толькі на дзяржаўнай, польскай мове? Якую нацыянальную свядомасць маюць у большасці беларускія радныя і чыноўнікі? Чаму клуб у вёсцы стаіць пусты? Адказ на гэтыя пытанні хацеў я атрымаць ад вясковага дзеяча. Аднак, — кажа ён, — радным стаў не так даўно, солтысам таксама выбралі пад канец восені мінулага года. Дамовіліся мы, што аб гэтых справах пагаворым у час велікодных святаў.

Затым завялі мы гутарку аб трэцяй яго функцыі, аб кіраванні вясковай пажарнай камандай.

У Махнатым дабравольная пажарная каманда паўстала ў 1935 годзе. Пры тушэнні пажараў пажарнікі карысталіся ручной помпай і бочкай, якія трымалі ў пажарнай шопе. У ваенны перыяд і да чэрвеня 1949 года пажарнай каманды ў вёсцы не было. Потым, дзякуючы ініцыятыве сялян, пажарная каманда адрадзілася пад камандаваннем Грышы Кучко. Усе гэтыя факты запісаны ў хроніцы, якую вядзе цяперашні камендант. На гэтай пасадзе знаходзіцца ён ужо дзесяць гадоў.

— Цяпер то не тое што калісь, — кажа камендант Герасімюк. — Наша пажарная каманда ўваходзіць у састаў Краёвай выратавальнай сістэмы. Атрымліваем невялікія датацыі, пераходзім пастаяннае абучэнне. У нас пажарная аўтамашына, тры мотапомпы, дзесяткі метраў шлангаў і поўная гатоўнасць да тушыльнай акцыі. Увесь час трымаем напагатове некалькі тысяч літраў вады, нават у найбольшыя маразы.

Пажарную каманду састаўляюць сорак пажарнікаў, з якіх 26 актыўных, гатовых кінуць работу і ставіцца ля брамы дэпо ў час трывогі.

Тушым пажары ў наваколлі Махнатага, у вёсках Гайнаўскай, Чыжоўскай і Дубіцкай гмін, а калі гайнаўскія пажарнікі выязджаюць з Гайнаўкі, тады мы едзем і трымаем дзяжурства ды забяспечваем горад ад пажару, — кажа камендант.

— Ці арганізуеце, як пажарная каманда, культурныя мерапрыемствы ў вёсцы? — пытаю.

— Не. Ніхто да гэтага не мае галавы і часу. Толькі моладзь ад часу да часу арганізуе забавы ў клубе, які знаходзіцца побач нашага дэпо. Клуб вялікі, можна ў ім арганізаваць нават вяселле. Умовы да вядзення культурнай дзейнасці ёсць, горш з арганізатарамі. Калісь настаўнікі ладзілі на вёсцы розныя культурныя мерапрыемствы. Цяпер настаўнікі жывуць у горадзе і вясковай культурай не займаюцца. Астаецца тэлебачанне і нараканне, што на вёсцы нудна.

Але аб гэтых справах пагаворым вясной, бо Аляксей Герасімюк гэта не толькі камендант пажарнай каманды, але і гмінны радны ды солтыс.

**Міхась Куптэль**

# Байкатаваная сесія

Патрабаванне склікаць нечарговую сесію Рады павета, прысвечаную рэформе аховы здароўя на Бельшчыне, дзесяць радных з Бельскай кааліцыі і Кааліцыі Бельскай зямлі падалі на IV сесіі 30 студзеня г.г. Яе тэрмін быў назначаны на 6 лютага. На ёй мелі разглядацца інфармацыі павятовага старасты і дырэктара ЗОЗ — установы па ахове здароўя. Аднак у нечарговай сесіі на лік 30 радных удзельнічала толькі 17 народных абраннікаў. Адсутнічалі амаль усе падпісанты заявы аб скліканні нечарговай сесіі.

Напярэдадні, 5 лютага, лідэры Бельскай кааліцыі і Кааліцыі Бельскай зямлі паведамілі факсам старшыню Рады павета, што не прымуць удзелу ў сесіі па прычыне нестрымання сямідзённага тэрміну паведамлення аб пасяджэнні. На сесію не прыйшлі таксама дырэктар шпіталя і ягоны намеснік. Старшыня рады заявіла, што па розных прычынах не ўдалося сустрэць іх дома і на рабоце і таму не былі ім даручаны запрашэнні на сесію.

Сесія поўнасцю была прысвечана справам шпіталя ў Бельску і яго даўгам, якія склалі 1 200 000 зл. на канец мінулага года. У шпіталі працуе 730 чалавек. У павятовых улад няма грошай, каб пагасіць задоўжанасць. У сувязі з адстаўкай кіраўніцтва шпіталя староста новым дырэктарам бельскай бальніцы назначыў 37-гадовага Анджэя Грынявіцкага — выпускніка юрыдычнага факультэта Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку.

**Міхал Мінцэвіч**

# Роздумы пра годнасць

Ад спадара Юрыя Баены атрымаў я навагодні падарунак: „Вечар над светам" — зборнік ягоных паэтычных твораў. У адным з іх закрануў ён пытанне, якое мяне хвалюе ад дзесяцігоддзяў. Аўтар піша: „Моцныя народы, як сабакі, кідаюцца ў абароне сваёй годнасці. Беларусы толькі пытаюць: навошта?"

Мой знаёмы — паляк — на падобнае пытанне адказаў: „Чалавечае грамадства пакуль сарганізавана так, што калі хто не носіць „зброю", каб бараніць справы сваёй айчыны, мусіць рабіць гэта як халуй, змагаючыся за чужыя інтарэсы". „Няўзброены" ніколі не будзе вольны ў экспансіўным акружэнні. Выходзіць, што і годнасць з'яўляецца зброяй.

Можна падумаць, што беларусы, якія на сваёй зямлі ад стагоддзяў аставаліся парабкамі ў акупантаў, надалей успрымаюць паняцце асабістай годнасці паводле вучэння Маякоўскага: „адзінка — нуль", значыць, нешта малапатрэбнае, не раўняючы, спарахнелы калок у плоце, палена на чужое вогнішча, і таму падобнае. Маякоўскі ўсё ж памыляўся. Нават мільён нулёў гэта толькі нуль — і не толькі ў арыфметыцы — калі перад імі не стаіць „адзінка". Дыктатура пралетарыяту — сіла рабочых мас — без дыктатара-адзінкі аказвалася таксама нулём. Бо калі масы часам не сумелі ў чым-небудзь быць аднадумнымі з дыктатарам, дык знікалі як нулі, калі не ў сырой зямлі, то недзе ў шахтах — з волі дыктатара-адзінкі. Дыктатар рыхтаваўся здзейсніць сусветны пераварот. Задума сур'ёзная. Найлепшымі рэвалюцыянерамі — як лічыла партыя — могуць быць толькі людзі галодныя і без даху над галавой. Шмат такіх было, але нешта не сыграла. Не паверылі лозунгам? Асабліва тады, калі адкрыўся, на ўвесь рост, культ асобы і паказаў свету твар камуністычнага „гуманізму". Іншы дыктатар ад пачатку адкрыта заяўляў, што імкнецца стварыць: „Ein Reich, ein Volk, ein Fuhrer" і дзейнічаў (свет папраўляў у крэматорыях). І мэты дыктатараў былі падобныя і вынікі дасягнутыя мала розніліся... Метады крыху нясходныя былі. Расейцы скрывалі імкненні пашырэння імперыі, прыкрываліся лозунгамі дружалюбнасці, дапамогі суседзям. А нявыгадных ліквідавалі — то як шпіёнаў, то як нацдэмаў, або проста як ворагаў народа. Напрыклад, польскі камуніст Прухняк сам паехаў у Маскву пагаварыць пра ролю польскіх камуністаў у стварэнні новага парадку, а там яго і „шлёпнулі". Зрэшты, гінулі тысячы. Ці хто ведае пра лёс стваральнікаў БССР? Пра ўгодкі ўтварэння гэтай Рэспублікі прыгадвае „Беларускі каляндар '99". Ні словам аднак не намякае пра герояў гэтай падзеі. А праўда была такая, што адзін толькі Дыла памёр у Сібіры ад старасці, усіх іншых членаў урада бальшавікі пастралялі заўчасна. Сусветнай рэвалюцыі не пашанцавала, захаваўся СССР. 70 гадоў будаваў дабрабыт, а перш за ўсё, новыя „перадавыя" суадносіны між людзьмі — здзяйсняў камуністычнае выхаванне грамадства. Была гэта дзяржава, у якой усе грамадзяне (без малалеткаў) з'яўляліся „дастойнымі" членамі вялікай партыі Леніна і Сталіна. Усе ў свеце ўжо чулі, што саветы дагналі і абагналі ўсё і ўсіх. А тут Саюз рассыпаўся. Што асталося ад савецкай гаспадаркі і бальшавіцкага „дастоінства"?

Вядома, шмат хто на мае словы абурыцца, скажа, што не ўсё ў іх праўда, што людзі жывуць, працуюць, значыць, нешта ствараюць. Толькі я пішу не пра статыстыку, а пра мэту і сродкі. Скажу толькі: „Сабачая тая праўда, якую хлуснёй даказваць трэба!" Вось гады праходзяць, а мы паціхеньку факты забываем. Нават ужо нам і ў галаву не прыходзіць, што наша стагоддзе было сведкам не толькі таго, што гісторыя на шмат гадоў затрымалася, яшчэ горш: яна нават не кінула ў змрочную эпоху рабаўладальніцтва. Для старажытных эксплуататараў, як і гітлераўска-сталінскіх, эпоха такая была незвычайна выгаднай. Рабочая сіла была дарма, бо рабам можна было зрабіць кожнага. Зрэшты, чаму немцы, маючы ў сваіх руках палову Еўропы, не маглі абяцаць „сваім" збудаваць Новую Еўропу? Сталін абяцаў „светлую будучыню" камуністам. І ці ж не мог абяцаць, маючы палову грамадзян у лагерах? Гэта іх рукамі, дарма, будаваліся „дасягненні" партыі. Пры дарозе ў „Саловушкі" стаяла дошка з лозунгам: „Железным кулаком мы к счастью человечество загоним". Вось тут і ўся мараль сталінска-гітлераўскага ладу. Мала што людзей у ім лічылі як рабочае быдла, то яшчэ выхоўвалася іх да гэтай ролі ўкараненнем у іх страху перад смяротным пакараннем за абы-што, а нават за нішто. Забівалі ўсюды — у Курапатах, у Асвенціме, а нават за вуглом вясковай хаты. Хапіла, што сусед назваў цябе ворагам народа ці яшчэ кімсьці...

Дык якую годнасць могуць мець тыя „моцныя" народы, якія паўплывалі на лёс разбуранай Еўропы? Ці не сабачую? А можа тут зусім іншая справа? Можа яны баяцца, каб ніхто не дадумаўся, якія яны ў сапраўднасці? А можа вераць у дадзеную ім Богам місію? Напрыклад, ці такія словы, як сказаныя архібіскупам Шымэцкім некалі для „Gościa Niedzielnego", што на Беласточчыне раней беларусаў не было, а цяпер яны тут польскасці пагражаюць, можна прыняць як клопат духоўнага пра божых вернікаў, ці як нацыяналістычнае выступленне, якое яму годнасці не прыбаўляе?

Усё ж варта тут затрымацца на хвілінку. Польская нацыя не вымерла за час падзелу Польшчы між яе суседзямі. Палякі жывуць раскіданыя па ўсім свеце і амаль усюды яны жывуць у сарганізаваных асяроддзях. Польская мова, польская культура і рэлігія іх нідзе не адступаюць. Бо пра гэта дбаюць польскія арганізацыі, і, перш за ўсё, польскія ксяндзы. Яны ёсць усюды, нават у Казахстане і ў Сібіры. На жаль, беларускае замежжа не такое вялікае, каб здолець супрацьстаяць расейскаму нацыяналізму, які дзякуючы айчыннаму прэзідэнту разгуляўся па краіне так, што за беларускае слова на вуліцы сталіцы можна дастаць дубінкай па галаве. Расейцы таксама пра сваіх памятаюць.

Я ўжо некалі ў „Ніве" пісаў, што будучы ў Беларусі наведаў сваю школу. Убачыў тады ў ёй на сцяне, уздоўж усяго калідора аграмадны лозунг: „Сберегайте наш Великий Русский Язык". Памятаю, першыя крокі ў адукацыю ставіў я там да вайны, у час панавання Польшчы. Тады настаўнікі пільна дбалі, каб кожны школьнік умеў верш: „Kto ty jesteś? — Polak mały..." Выходзіць, што тыя моцныя баяцца годнасці сваіх зняволеных і робяць усё, каб іх атуманіць, перацягнуць на свой бок, сказаць ім, што яны гэта не яны... Як было са славутым Сянкевічам, пра якога расейцы гаварылі: „русский писатель пишущий на польском языке..." У школьнай кнізе „Сеятель" ужо за цара-бацюшкі гаварылася, напрыклад, пра Белавежскую пушчу: „Некогда здесь существовало самостоятельное литовское княжество. Теперь край этот уже давно сделался русскимъ". Вядома, дзякуючы патрыятычнай апрацоўцы тубыльцаў.

Апрацоўку такую робяць і чужыя, і свае таксама. Кім жа былі тыя, г.зв. „праваслаўныя палякі", якія ў свой час на старонках „Нівы" сілком хацелі — чытачам — даказаць, што прыхільнікі незалежнай Беларусі гэта абавязкова польская пятая калона ў Беларусі! Ці дзейнічалі яны для выяўлення сваёй годнасці? Так палка гэта рабілі, пры нагодзе аплёўваючы ўсіх тых, хто не падзяляў іхняй думкі, а нават і гістарычных герояў, якія некалі служылі беларускай справе, што без цяжкасці можна было дайсці да высновы, што яны і ёсць якраз тая пятая бальшавіцкая калона ў Польшчы. Чаму людзі часценька гатовы служыць чужой справе? Мабыць, гэта аплачваецца, а напэўна служыць лягчэй, чым самому ствараць нешта каштоўнае. У гісторыі прыкладаў на гэта шмат. Многія мужыкі, калі іх вызвалілі ад прыгону, хацелі на службе ў паноў аставацца. Сыны Ізраіля нават у Егіпет гатовы былі вяртацца, калі Майсей павёў іх з няволі ў Палесціну. Значыць, няволя пазбавіла іх умеласці і волі быць самастойнымі. А самастойнасці як і ўсяго іншага, трэба вучыцца, асабліва калі хто хоча не як халуй, а як паўнавартасны чалавек сабой ганарыцца.

На маю думку, мець годнасць — гэта быць чалавечным, умець любіць сябе і ўсё сваё і шанаваць добрае чужое.

**Анатоль Маўчун**

# Шляхта-галота пры ўладзе

Станіслаў Цат-Мацкевіч, кансерватыўны віленскі публіцыст, у трыццатых гадах пісаў, што польская дзяржава не вытрымае 600-тысячнай арміі чыноўнікаў. Падаткаплацельшчыкі, сярод якіх большасць складалі сяляне, не былі ў змозе ўтрымаць аграмаднай колькасці бюракратаў, якія дзяржаву успрымалі як пастаўшчыцу пасад, а ўсю актыўнасць накіроўвалі на выцягванне бюджэтных сродкаў. Польская інтэлігенцыя ператварвалася ў чыноўнікаў. Уласны варштат працы, такі папулярны пад расейскім ці нямецкім панаваннем, для польскага інтэлігента ў сваёй краіне страціў вартасць. Лекар, адвакат, настаўнік, паэт, журналіст імкнуўся стаць чыноўнікам. Цат-Мацкевіч пісаў пра лавіну лянівых, недавучаных інтэлігентаў, якая звалілася на плечы падаткаплацельшчыкаў. Беззямельная шляхта-галота, якая пеатрывала зняволенне краіны больш чым стогадовай працягласці, трыумфальна і шчыльна запоўніла дзяржаўныя структуры. У параўнанні з перыядам царскай Расіі, падаткі ўзраслі ў сярэднім у тры разы.

Пасля 1989 г. шляхта-галота нанава атрымала назад сваю дзяржаву. Раней, аднак, ва ўмовах камунізму атрымала яна асаблівую грамадзянскую адукацыю. Найважнейшай прыкметай камуністычнага выхавання стала адабрэнне шызафрэнічнага стану як нейкай агульнапрынятай нормы. Уладу, напрыклад, пераймаюць сарганізаваныя паводле мафійных прынцыпаў групы, якія пасля запаўняюць сваімі салдатамі захопленае ў выніку дэмакратычных выбараў месца і пачынаюць цягнуць да сябе ўсё магчымае. Шызафрэнічнасць заключаецца ў тым, што ўсё гэта адбываецца ад імя грамадства, для дабра грамадства, і за кошт грамадства, хаця штораз больш аслупянелы народ нічога аб гэтым не ведае.

Традыцыйна ўжо, пасля кожных выбараў пераможная група павялічвае колькасць пасад у дзяржаўных і самаўрадавых структурах, каб стварыць крыніцы прыбытку для сваіх салдат. Такім чынам армія недавучаных інтэлігентаў у радах улады даўно ўжо перасягнула рацыянальныя межы. Але ніколі не бывае так дрэнна, каб не магло быць горш. Адміністрацыйная рэформа, якая мела прыблізіць уладу да грамадства, скараціць колькасць чыноўнікаў і фінансавыя кошты абслугоўвання ўлады, стварыла толькі пару соцень тысяч дадатковых высока платных штатаў. Пасля апошніх самаўрадавых выбараў шляхта-галота кінулася дзяліць здабычу. Штотыднёвік „Палітыка" (н-р 7) апублікаваў даныя пра ганарары, якія вызначылі сабе народныя абраннікі. Павятовыя і ваяводскія радныя, якія будуць засядаць прыблізна раз у месяц, вызначылі сабе плату ў межах ад 1 000 да 2 000 злотых. Старастам, прэзідэнтам, маршалкам, якім прыйдзецца хадзіць на працу кожны дзень, вызначылі аклады ў памеры ад 8 000 да 18 000 злотых у месяц. Усё гэта, зразумела, адбываецца пад лозунгам дзеяннэй у карысць грамадства. Той, хто спадзяецца, што памяркоўна будзе ўзрастаць, напрыклад, цана вады з гарадскіх водаправодаў або падатак ад нерухомасці, як гэта абяцалі кандыдаты да лакальнай улады, памыляецца. Шляхта, якая цяпер апынулася пры ўладзе, знойдзе яшчэ сотні метадаў, каб выцягнуць грошы ад грамадства на свае штаты.

Цяперашні закон аб выбарах у самаўрады — вынік згоднага галасавання ў Сейме салідарнікаў і посткамуністаў. Сэнс гэтага закону зводзіцца да таго, каб у большых гарадах, паветах і ваяводствах, там, дзе абарачаюцца вялікія грошы, даць магчымасць выбару радных толькі вялікім палітычным партыям. Лакальныя структуры ўлады сталі разбудоўвацца да карыкатурных памераў, каб даць утрыманне ўсім мясцовым дзеячам. Рада такой велічыні горада як Беласток у Нямеччыне ці Амерыцы налічвае 7-10 радных, у нас 5-8 разоў больш. На Захадзе на працу ў адміністрацыі дэпутаты прымаюць не сваіх калег, каб даць ім зарабіць, але спецыялістаў, якія не будуць марнаваць грамадскіх грошай. Найбольшы грэх у капіталізме — негаспадарлівасць. Тое, што дзеецца ў Польшчы паказвае толькі на вяртанне прынцыпаў камунізму ў нейкай новай, дзіўнай упакоўцы. Партыйны апарат перасяліўся з павятовых і ваяводскіх камітэтаў у самаўрадавую і дзяржаўную адміністрацыю. Яго ненасытнасць, прага ўлады і лёгкага прыбытку без уласнага ўкладу і рызыкі маланкава дэмаралізуе грамадства. Лекары даказалі ўжо, што могуць быць не менш цынічнымі чым пасльі, чыноўнікі ці радныя, сяляне выразна прадэманстравалі, што законы можна смела праігнараваць, а шахцёры адкрыта заяўляюць, што дзяржаўны бюджэт павінен служыць ім таксама як і бюракратам.

У некаторых шматпавярховых будынках — як нядаўна паведаміла прэса — 40 працэнтаў кватарантаў не плацяць чыншаў. Цана за камунальныя паслугі дасягнула такога ўзроўню, што вялікая колькасць жыхароў, нават пры добрай волі, не зможа аплачваць рахункі, якія прад'яўляе ім адміністрацыя жыллёвых каапкратываў. Пераважную большасць коштаў кватрплаты складаюць скрытыя падаткі. А будзе іх штораз больш ува ўсіх прадуктах і паслугах.

Апарат улады ўсё яшчэ разбудоўваецца, скарачаецца затое зона прадпрымальніцтва. Шмат інтэлігентаў, якія раней нечым гандлявалі або нешта выпускалі, сёння апынуліся ў радах улады. Тут без рызыкі, стрэсу і вялікай працы атрымаюць столькі ж, што ў прыватным бізнесе, а можа нават і больш. Дзіўны гэты сучасны польскі капіталізм. Шмат у ім феадальных і камуністычных элементаў. Невядома нават, ці нехта ведае яшчэ, куды гэта ўсё коціцца. **Яўген Мірановіч**

# Быць поўным чалавекам




*Аліцыя Петручук (злева) і Агнешка Чаркоўская з узнагародай „Premios Ondas" — бронзавым пегасам.*

[1 ☞ працяг]
была звязана з БАСам, дзе дзейнічалі мае сябры з ліцэя. Па сённяшні дзень падтрымоўваем гэтыя сувязі.

***— У асяроддзі журналістаў Радыё Беласток лічаць цябе адважным чалавекам, ты не скрываеш сваёй беларускай нацыянальнасці.***

— Гэта не адвага, я, проста, ведаю свае карані, моўныя традыцыі Беласточчыны. Дарэчы, тое што ў рэпартажы карыстаюся мовай герояў, нікога ў свеце не здзіўляе. У цэлым свеце, у Варшаве нават, гэта натуральная справа, што журналіст ведае мову асяроддзя, у якім працуе.

***— У Беластоку гонарам для большасці журналістаў з'яўляецца якраз няведанне беларускай мовы.***

— Не ведаю чаму гэтая простая праўда не можа прыняцца ў Беластоку. Гэта для мяне сапраўды дзіўная справа.

***— У Беластоку існуе перакананне, што беларус кар'еры не зробіць.***

— Думаю, што гэта наіўны погляд. Ні паляк, ні кітаец, ні беларус не будзе творчым чалавекам, калі замкнецца ў рамкі сваёй нацыянальнасці. Творчая індывідуальнасць павінна адкрывацца на асяроддзе і свет, у якім жыве. Бо ствараючы гета ў сабе, ствараем гета ў грамадстве. Але трэба таксама ведаць адкуль я і хто я. Гэта дае вялікую сілу — сілу быць поўным чалавекам, бо існуем у тым, што было і тым, што яно з сабой нясе. Гэта дазваляе на дыстанцыю і спакой, узбуджае прагу стварыць новае. Вызначэнне самога сябе дазваляе на рэфлексію.

***— Што найбольш любіш у жыцці?***

— Спаць, чытаць кніжкі, сустракацца з сябрамі, падарожнічаць па свеце.

***— Шмат вольнага часу праводзіш на бацькаўшчыне ў даслоўным сэнсе, на дачы ў Курашаве.***

— Бацькі адрамантавалі мне хату дзеда Аляксандра. Там праходзіла маё дзяцінства, пра якое люблю думаць, растуць там трускалкі, якія пасадзіла яшчэ мая бабуля, ёсць чыстае паветра, спакой і казачная прырода.

***— Вернемся да рэпартажу. Вашы героі ўражваюць шчырасцю і адкрытасцю.***

— Менавіта, усе нашы слухачы і журы адзначылі гэтую якасць. Проста некаторыя субяседнікі гэта мае знаёмыя, ёсць у рэпартажы фрагмент, дзе гаворыць спадарыня Герасімюк, жанчына, якую я ведаю шмат гадоў. Напэўна спрыяла таксама веданне мовы герояў.

***— На што яшчэ камісія звярнула ўвагу?***

— Заўсёды адзначалася таксама універсальнасць рэпартажу. Гаварылі нам, што візіт галавы дзяржавы ў іншым месцы выглядаў бы дакладна таксама. Людзі таксама рыхтаваліся б, перажывалі б і, здаецца, таксама галава дзяржавы не адвяла б вялікай увагі гэтым людзям. Заўсёды адзначалі вялікі гуманізм рэпартажу.

***— Рэфлексія мае гістарычны кантэкст, мне прыгадаліся расказы жыхароў прыпушчанскіх вёсак пра візіт цара.***

— І гэта вельмі важнае, бо тут сустракаем гістарычную памяць людзей гэтай вёскі. Ніхто, праўда, не памятае з іх ці гэта быў Мікалай І, ці Мікалай ІІ, ці пераязджаў цераз іх вёску, ці побач, але тая памяць пра сам візіт жыве ў народзе і яна вучыць пэўных паводзін. У рэпартажы жанчына рашае падаць скаргу прэзідэнту, у расказах пра візіт цара гаворыцца, што манарх любіў спаўняць дробныя просьбы сялян, трэба было толькі стаць перад ім на калені і палажыць на галаву сваю просьбу.

***— Рэпартаж уражвае тэхнічнай дасканаласцю. Колькі часу вы яго рэалізавалі?***

— Тры месяцы.

***— Ты і Агнешка Чаркоўская, як першыя беласточанкі, заваявалі бронзавы пегас, узнагароду „Premios Ondas". Раскажы пра сам конкурс.***

— Гэта вельмі важная ўзнагарода, якраз завяршыўся саракавы выпуск конкурсу. Раней такая ўзнагарода для Польшчы была ў 70-я гады. У гэтым годзе, апрача нас, узнагароду атрымала яшчэ адна журналістка з Польшчы і канадзец.

***— Якія новыя тэндэнцыі ў сусветным радыёрэпартажы?***

— Вельмі дзіўныя. Напрыклад, згаданы канадзец зрабіў рэпартаж у цікавай форме. Ён пакарыстаўся ўспамінамі свайго дзеда і голас яго замяніў у музыку. Такім чынам адначасна прадставіў гісторыю канадскай сельскай гаспадаркі і гісторыю музыкі. Цікавы таксама напрамак на вельмі асабістыя тэмы. Рэпартажысты выступаюць у першай асобе, расказваюць гісторыю сваёй сям'і, яе адчуванні і перажыванні. У нас, пакуль, не практыкуецца такіх формаў.

***— Якія планы на будучыню?***

— Калі мы дабіліся першага вялікага поспеху, не толькі цешыліся, але і баяліся. Бо гэта прымушае трымаць узровень, старацца, каб наступныя творы не былі горшыя, а лепшыя, больш дацэнены. Але пацешыў нас Яўген Руднік, які сказаў, каб мы занадта не пераймаліся сваёй місіяй, а проста рабілі рэпартажы. Бо геніяльныя творы прыходзяць самі.

**Гутарыла**
**Ганна Кандрацюк**

# „Залапацца на галю..."



*Фінал з патронам фестывалю.*

Аб тым, каб „залапацца на галю", марыць кожны выканаўца, бяручы ўдзел у фестывалі беларускай песні. Не трэба ім, кажуць, ніякіх узнагарод, ані падарункаў, вось каб выступіць толькі на гала-канцэрце, паказацца перад людзьмі, а пасля пахваліцца сваім аднавяскоўцам...

Сёлета, аднак, не была гэта справа простая. Ну, вядома, слаўным калектывам з мастацкімі кіраўнікамі і дырыжорамі, яно лягчэй. А вясковыя, фальклорныя калектывы, якія спяваюць „самі па сабе"?.. Так і дрыжыш увесь, ці возьмуць.

Сапраўды, сёлета бралі толькі найлепшых. Ну, і тых... хто падабаецца публіцы. А публіка любіць рытмы. Значыць, трэба ёй даць маладзёжныя эстрадныя калектывы, няхай разагрэецца! Discopolo! І таму, бадай, так ашчадна журы класіфікавала на гала-канцэрт, які адбыўся 14 лютага ў зале спартыўнага клуба „Влукняж", — вясковыя фальклорныя калектывы, спяваючыя *а капэла*. Такім чынам выступіў адзіны вясковы квартэт „Арэшкі" з Арэшкава, які заняў першае месца ў катэгорыі аўтэнтычнай песні. На гала-канцэрце ён выклікаў гром авацый. Выступілі таксама лаўрэаты ў катэгорыі апрацаванай народнай песні — калектывы „Чыжавяне" з Чыжоў і „Цаглінкі" са Старога Ляўкова, ды на акрасу — калектыў „Арляне" з Орлі, які выступіў у катэгорыі сучаснай беларускай песні, аздабляючы сваё выступленне выкананнем цудоўнай полькі-заляцанкі.

Былі і іншыя, бадай, прычыны таго, што ў гала-канцэрце выступіла ўсяго 25 выканаўчых адзінак, а бісаваць далі магчымасць толькі „Маланцы" з Бельска пад упраўленнем Сяргея Лукашука.

Справа ў тым, што такое мерапрыемства патрабуе штораз большых коштаў. Кожная гадзіна найму залы каштуе. Мо таму і не зрабілі перапынку ў канцэрце. А колькі захадаў трэба зрабіць у святле новага закона аб масавых імпрэзах, колькі трэба атрымаць дазволаў і рэкамендацый: і ад раённага каменданта паліцыі, і ад дзяржаўнай пажарнай аховы, і ад дырэктара хуткай дапамогі, і ад санітарнага інспектара і г.д. і т.п.

У зале „Влукняжа" 1 500 месц. Калі б захацелі даставіць пару крэсел, ужо былі б патрэбны спецыяльны дазвол. А трэба ж аплаціць і ахоўнікаў парадку, і хуткую дапамогу, і страхоўку гледачоў.

Адным словам, усё, што на першы погляд здаецца такім простым, бывае нават і цалкам складаным. Ну, а апрача ўсяго гэтага, трэба ж заапекавацца спевакамі і занянца гасцьмі.

Гасцей не бракавала як заўсёды і як заўсёды сабраных найцяплей віталі пасла Сейма Владзімежа Цімашэвіча, патрона гэтага фестывалю. А наогул было шмат важных гасцей з Беларусі і Польшчы, паслоў, консулаў, прадстаўнікоў міністраў, ваяводскіх улад, войтаў, бурмістраў і радных. Быў таксама айцец Анатоль Лаўрашук ад імя мітрапаліта Савы і Роберт Смолень з канцылярыі прэзідэнта РП, які ў сваёй прамове заўважыў, што палякі найчасцей шукаюць вартасцей далёка, не заўсёды заўважаючы праявы найбліжэйшых культур, якія на працягу соцень гадоў узбагачалі іхнюю культуру. Ён так і сказаў: нацыянальныя меншасці ўзбагачаюць дзяржаву.

Добра сказаў, менавіта такія крытэрыі маюць абавязваць у Еўрапейскім Саюзе, у які мае ўступіць наша дзяржава: нацыянальная культура меншасцей не шкодзіць, а ўзбагачае!

А што ў нас? Сёлета не выступіў у цэнтральным аглядзе ніхто ні з Дуброўшчыны, ні з Сакольшчыны, хаця быў у іх раённы агляд. Беларусам у тым раёне ўсё цяжэй зрабіць нешта вартаснае для сваёй культуры, бо на першае месца ў кожнай галіне высоўваецца (у значнай ступені) іх прыналежнасць да каталіцкай веры, што ў разуменні многіх абазначае польскую культуру.

Дзякуй жанчынам-спявачкам з Фальваркаў-Малых, якія вырашылі сёлета ўзяць удзел у аглядзе, а трэба падкрэсліць, што ўсе яны, як адна, каталічкі і ходзяць у заблудаўскі касцёл. Такіх людзей трэба ўсялякім спосабам падтрымліваць.

Сёлета ў лік спонсараў фестывалю, інфармуе вядучая канцэрт Валянціна Ласкевіч, уключыліся паслы Сейма В. Цімашэвіч, С. Плева, Я. Сычэўскі, а таксама клуб



*Святлана Кобус.*

мясцовых левых і праваслаўных радных. Ян Сычэўскі сваю асабістую ўзнагароду прызначыў калектыву „Маланка", а Владзімеж Цімашэвіч, апрача ўзнагарод, прызначыў Кубак калектыву „Прымакі".

Гала-канцэрт быў адметны, але найбольш падкупляла тая невідочная нітка сімпатыі між выступаючымі і публікай. Толькі момантамі праяўлялася яна ў громе апладысментаў і патрабаваннях: „біс!"

Людзі прывыклі ўжо да фестывалю беларускай песні ў Беластоку і чакаюць гэтай імпрэзы як нечага свайго, блізкага сэрцу, без чаго абысціся ніяк немагчыма.

На заканчэнне гала-канцэрта выступіў беларускі прафесійны калектыў з Мазыра „Сваякі". Сапраўды сваякі, бо гаворка іх амаль такая ж, як і на Бельшчыне.

**Ада Чачуга**
*Фота Сяргея Грынявіцкага*

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

**Аня Садоўская**

* * *

Не толькі я
плачу над светам.
Думаю
аб нечаканасці дзён,
іх непрыхільнасці.
Так далёка
пры драўлянай царкве
стаяць усе,
дзяруцца.
Забалела ў думках.
Знічка дагарае.
Толькі я
малюся.

# Гулялі і вучыліся



*Марцін Анішчук (першы справа) у час журналісцкіх заняткаў.* Фота Г. КАНДРАЦЮК

У час XVI С „З” мы сустрэліся з журналістам Аляксандрам Максімюком, які вучыў нас пісаць эсэ. У наступныя дні мы знаёміліся з фельетонам і рэпартажам.

Усе сябры рыхтавалі спектакль „Куль”, які паставілі ў пятніцу. У чацвер мы хадзілі з паняй Ганнай Кандрацюк у Гурыноўшчыну (афіцыйна названую „Górny Gród”), каб зрабіць рэпартаж. Пасля, калі мы вярнуліся, з’елі абед, нам наладзілі куліг. У час язды мы любаваліся прыгожымі краявідамі Белавежскай пушчы. Вогнішча з печанымі каўбаскамі мы згулялі ва ўрочышчы непадлёк вёскі Круглэ.

У чацвер мы зрабілі „Зялёную ноч”. Наступнага дня мы гасцілі галоўнага рэдактара „Нівы” Віталя Лубу, які расказаў нам пра прэсавую інфармацыю. Вечарам адбыўся спектакль. На яго прыбыло многа людзей. Гэта былі мае першыя сустрэчы і яны мне вельмі спадабаліся.

**Марцін АНІШЧУК,**
**VII кл. ПШ у Новым Корніне**

# Польска-беларуская крыжаванка № 9

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу 3 тыдняў у „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Bug | Tort | Opamiętanie | ▼ | Kulig | ▼ | Marzenie | |
| Żubr | ▼ | Bicz | ▶ | | | ▼ | Dar |
| ▶ | | ▼ | | Ład | ▶ | | ▼ |
| Przebój / Ryj | ▶ | | | Irena | ▶ | | |
| ▶ | | | Igor | ▶ | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 5:**
Авадзень, палон, полька, клад, тын, Каір.
Лапа, валун, жаль, дом, азнака, Лі, знахар.

Узнагароды, **каляровыя алоўкі**, выйгралі: **Сільвія Пятрышык** з Кленік і **Міхаліна Герасімюк** з Гайнаўкі.

Віншуем!

# Любчыны прыгоды

*(амаль дзённік)*

**Як татка Любачку ратаваў**

Тры месяцы Любцы было. Якое там гаварыць, якое хадзіць! Спаўе маці, пакладзе ў каляску, а татка напагатове — кніжку ў торбу і вырульвае з двара да Летняга саду. Самому — тры хвілінкі пехатой. А з Любкай — не гэтак хутка! Асцярожна ехаць трэба, каб на каменьчык які не трапіць, ды і машыны побач — вурчаць ды бібікаюць: у вялікім горадзе і рух вялікі.

А як завернеш у Летні сад, дык і спакайней: вуркату не чуваць — стараной праходзіць — нібыта праз сон далятае.

А Любцы толькі таго і трэба! Як убачыць над сабой шаты зялёныя — нат і не відаць з-за іх аблокаў ці сінечы, празрыстай і свежай, — зірне супакоена на татку і... вочкі заплюшчвае. Спіць! Хораша ёй тут і ўтульна.

А ў той дзень халаднавата было. Дарасламу — дык нічога: ён да ўсяго звычны. А дзіцятку — гэткаму, як Любачка, — горш. Круціцца яна ў сваёй калясачцы, нібыта муляе ёй штось, падрэмле трошкі і зноў варочаецца, а то і паплача. Татка коўдру паправіць, пітва цёпленькага — з журавінак — дасць пасмактаць, і пацішэе Любачка. А татка зноў па Летнім садзе ўздоўж і ўпоперак раскатвае. Сцяжынкі гравейныя, з пясочкам. І ўтрамбаваны добра. Але во там каменьчык вылузнуўся, а там раўчук — па дажджы — канавачку прабіў — сачы, татка, ды кіруй, дзе раўней: Любцы спаць трэба.

Ды не ішоў сон. Яшчэ з паўгадзінкі пагуляць заставалася, а Любачка проці! Раўма раве — нічым яе не супакоіць. Ні казкамі, ні гушканнем. Пабедаваў татка ды вырашыў дахаты ехаць: можа, не заслуе матуля, што так рана вярнуліся.

Якраз добра паспелі: маці ўжо ночвы рыхтуе, вадзіцу цёпленькую правіць ды кажа татку:

— Ты расхіні пакуль. Водзека коўдрачка мякенькая, загорнеш і прынось. А тады пакормім і спаць.

Татка за справу — не горш мацеры налаўчыўся, — ды правярае тым часам, ці не нарабіла малая шкоды — праз тое мо і раве, — але не, сухенькая. Мусіць, дужа накрычалася на холадзе — ці ж гэта лета, калі сам мусіш у швэдары хадзіць?! — дык горлачка ёй і баліць. І галоўка нешта гарачая — няўжо застудзілася?! — але ж якое дзіця ў такім узросце табе адказ дасць?! Здагадвайся, бацька, сам!

Татачка дачку супакойвае — во зараз распранемся ды плаваць пойдзем, — а Любачка і слухаць не хоча — сваю песню вядзе — нават слёзанькі з вачэй пакаціліся.

І раптам сціхла. Разявіла раток — ухапіла паветра — і ні крыкнуць, ні варухнуцца ёй — гэтак блага зрабілася. І, пэўне, так блага, што нат пра крыкі свае забылася, адно на татку зірнула, ды выразна, што той ажно знямеў: ніколі дагэтуль не бачыў, каб дзіця ў тры месяцы позіркам магло гаварыць — памажы татачка! — ды так свядома, нібыта ведала, што матулі побач няма, адзін татка — каму ж ратаваць, як не яму!

Кінуў татка разгортваць — якія там коўдрачкі ды пялёнкі! — падхапіў Любачку на рукі — цельца роднае да грудзей прыціснуў:

— Дачушка ты мая... Любачка...

Ёй і адлягло — ціхутка гэтак дыхае — бацькавым цяплом жывіцца...

*(працяг будзе)*

**Анатоль Кірвель**



*Малюнак Монікі ЯКІМЮК з ПШ у Чыжах.*

# „...Пачынаецца ўсё з любві...”



*„Не мае значэння: хто зробіць першы крок” (Мажэна Жменька і Чарэк Хіліманюк у сцэны „Тадэвуш і Талімэна”).*
Фота Ганны КАНДРАЦЮК

*Ты пакліч мяне. Пазаві.*
*Там заблудзімся ў хмельных травах.*
*Пачынаецца ўсё з любві,*
*Нават самая простая ява...*
*Я. ЯНІШЧЫЦ*

Яшчэ некалькі гадоў таму ніхто не чуў пра Свята закаханых, якое выпадае 14 лютага. У гэты дзень весяліліся толькі імяніннікі — Валянціны. А цяпер сваё свята маюць усе закаханыя. Страла Амура трапляе амаль усіх, незалежна ад узросту. Закаханыя на цэлым свеце дораць сабе ў гэты дзень вялікую порцыю любві. Людзі кахалі сябе заўсёды. Не было толькі „валянцінкавых” звычаяў. Усе дзяўчаты трымалі сваё каханне ў вялікай таямніцы. У ніякім выпадку не мог аб гэтым даведацца хлопец. Гэта ён павінен быў зрабіць „першы крок” і выказаць дзяўчыне свае пачуцці. Калі гэтага не зрабіў, дзяўчына заставалася са сваім каханнем адна. Навязвацца ёй хлопцу было смешна і брыдка.

Цяпер зусім інакш. Не толькі хлопцы прызнаюцца першыя ў каханні і дораць „валянцінкі”. Дзяўчаты таксама маюць у гэтым свой удзел. Не мае значэння таксама тое, хто зробіць „першы крок”.

Закаханых хоць ты адбаўляй у бельскай „тройцы” — не толькі сярод вучняў, але і настаўнікаў. Найбольш цікавае аднак тое, што раманսуюць ужо вучні першых класаў. Іх „валянцінкавая скрынка” таксама была ў гэтым годзе запоўнена. Вучні старэйшых класаў хадзілі ў кіно, кафэйкі, танцавалі на дыскатэках. А што сабе дораць закаханыя? Найбольш папулярнымі сюрпрызамі застаюцца „валянцінковыя” паштоўкі, кветкі, перад усім — чырвоныя ружы, *маскоткі*, парфума і салодкія падаркі. Але ў сапраўднасці гэтае не найважнейшае. Найбольш каштоўныя і найпрыгажэйшыя гэта шчырыя пачуцці. Такога падарка ад свайго хлопца чакае не адна дзяўчына. 14 лютага — дзень незабыўны для ўсіх (для мяне таксама). Вельмі прыкра не атрымаць тады ніводнай „валянцінкі”. Таму наканец заклік да ўсіх (асабліва хлопцаў). Не забывайце пра вашых каханых дзяўчатак! Не дазвольце ім плакаць, тужыць. Учыніце, каб лічыўся кожны дзень... Кахайцеся! (так як настаўнікі ў бельскай „тройцы”).

*...Ты пакліч мяне. Пазаві.*
*Сто дарог за маімі плячыма.*
*Пачынаецца ўсё з любві,*
*А інакш і жыць немагчыма...*

**Мажэна ЖМЕНЬКА, кл. VIII „е” ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**

PS. Без абразы.

# Астануся мастаком

Беларуская моладзь таленавітая. Калі некалькі гадоў раней на Сустрэчах „Зоркі” мелі мы выбіраць паміж заняткамі ў групах: тэатральнай, журналісцкай, а таксама мастацкай — амаль усе пабеглі запісацца ў гэтую апошнюю.

На апошніх Сустрэчах „Зоркі” ніхто такой праблемы не меў, усе ладзілі п’есу, а мастацкія заняткі абмежаваліся толькі да выканання дэкарацыі. Таму „мастакі” адчувалі ў глыбіні душы нейкі недахоп. На першы даклад, прысвечаны журналісцкай форме, усе ўдзельнікі прынеслі аўтаручкі і карткі. Былі нават такія, якія ўзялі з сабой каляровыя алоўкі. Пачаўся даклад. Першую частку я выслухаў з зацікаўленнем. Пасля пачаў разглядацца на ўсе бакі. Большасць слухачоў штосьці пісала ў сваіх сшытках. Здзівіла мяне гэта таму, што ў гэтай хвіліне журналіст чытаў твор і не гаварыў нічога, што маглі б мы запісаць. Глянуў я на картку сябра, які сядзеў побач мяне. І што?! Яго сшыткі быў цэлы памаляваны. Былі ў ім розныя ўзоры, карыкатуры. Частка прысвечана дакладу знаходзілася на самым пачатку і займала два радкі. Пачаў я прыглядацца да сшыткаў іншых сяброў. У амаль кожнага былі „карціны”. Некаторыя былі банальныя, напрыклад, *I love* такога і такога, гэты і гэты — дурань. Іншыя ў думках вярнуліся да часоў прадшколля і малявалі... шлячкі! Аднак, сярод усіх твораў былі і сапраўдныя „творы”, якіх не пасароміўся б нават масціты мастак.

Глянуўшы на ўсіх я таксама паспрабаваў „стварыць” нешта. Узяў аўтаручку і пачаў маляваць розныя рэчы. Здзівіла мяне, што яны сапраўды мне падабаюцца і што ніколі яшчэ я не зрабіў такіх малюнкаў! Я быў такі заняты тварэннем „карціны”, што не заўважыў, калі скончыўся даклад. Вярнуўшыся да пакойчыка я прабаваў дакончыць свой „мастацкі твор”, аднак мне не ўдавалася.

У наступныя два дні таксама былі арганізаваны даклады. Я прыкмеціў, што калі даклад быў вельмі цікавы і прыцягваў увагу слухачоў, тады мае мастацкія творы былі *do kitu*. А калі выказванні нашых гасцей былі нудныя, тады з малюнкаў майго аўтарства я мог зрабіць выставу! Глянуўшы на іх я падумаў, што пры іх карцінах Пікаса — марныя багамазы. Я цешыўся яшчэ з аднаго. У час „Бардаўскай восені” я не адкрыў у сабе паэта, а тут, на Сустрэчах „Зоркі”, я аказаўся адметным мастаком! Задумаўся я толькі над адной рэчай. Заўсёды, пасля даклада, журналісты дзіўна на мяне глядзелі. Мне здавалася, што яны на мяне злосныя. Аднак я абяцаў сабе, што калі дайду на сам верх, адплачу ім за гэта, за тое натхненне, і падарую ім сваю карціну.

Прыйшоў дзень, у якім я меў „ласку” пераказаць сябрам мае „вялікія” веды пра фельетон. Перад дакладам будучы Ван Гог вельмі хваляваўся. Гаворачы я паўтараў тыя самыя сказы, часам гаварыў недарэчнасці, не звязаныя з тэмай. У пэўную хвіліну я глянуў на слухачоў і... разявіўся. Усе пайшлі маім следам і малявалі. Яшчэ больш я разгубіўся, калі глянуў на малюнкі сяброў. Былі такія прыгожыя...

Пасля гэтага я дайшоў да вываду: каб удзельнікі адкрылі ў сабе мастакоў, трэба або арганізаваць прысвечаныя гэтаму заняткі, або арганізаваць як найбольш маіх дакладаў. Зразу гавару, што выбіраю першае.

**Міхась СЦЕПАНЮК**

PS. Асабіста інфармую ўсіх, што не адмоўлюся ад кар’еры вялікага мастака. Неўзабаве пабачыце мае карціны ў Парыжы...



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Усходняя і заходняя Беларусь

Паміж I і II сусветнымі войнамі Беларусь была падзелена і знаходзілася ў складзе дзвюх дзяржаў — Польшчы і СССР. У Савецкім Саюзе вялікая частка тэрыторыі, на якой пражывалі беларусы, была названа Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікай. У дваццатых гадах развівалася там нацыянальная культура, усе ўстановы працавалі на беларускай мове. Аднак на пачатку трыццатых гадоў пачаліся там праследаванні ўсіх стваральнікаў беларускага нацыянальнага жыцця. Пісьменнікі, палітыкі, гісторыкі, дзеячы культуры трапілі ў канцлагеры і турмы, а пасля большасць з іх была расстраляна.

Пацярпелі таксама сяляне, якім у трыццатых гадах савецкая ўлада адабрала зямлю, пашпарты, прывярнула прыгоннае права, а сотні тысяч паслала ў лагеры прымусовай працы на Сібіры.

Лёс тых беларусаў, якія жылі ў Польшчы, быў таксама даволі складаны. Дзяржава вяла палітыку рашучай асіміляцыі. Улады імкнуліся зрабіць з беларусаў свядомых палякаў і таму перашкаджалі ствараць беларускія школы, гаспадарчыя і культурныя ўстановы, у цэрквах прымушалі святароў карыстацца польскай мовай, тысячы сялян замыкалі ў турмах, абвінавачваючы іх у камуністычнай дзейнасці. Эканамічная сітуацыя сялян, якія складалі пераважную большасць беларускага грамадства ў Польшчы, была таксама вельмі дрэнная. Голад часта спадарожнічаў беларусам у трыццатых гадах.

Адсутнасць свае дзяржавы ў міжваенны перыяд не дазваляла беларусам развіваць ні свае культуры, ні вырашаць эканамічныя праблемы, а патрыётам прыйшлося цярпець зняволенне.

**Міра ЛУКША**

## *Пытанні-маляванні*

Ці можа быць сабачка сінім ці зялёным?
Чаму сінічка ў жоўтай камізэльцы?
А месяц — круглы ён, ці ён у крук сагнёны,
Бы ў барані рогі? А ў бутэльцы,
Калі няма ў ёй вады, жыве паветра?
І колькі яго будзе? Поўны літар?
Чаму ў зямлю насыпаў дзед салітру,
А ты — у каўбаску?! А ці ў каня капыта,
Як мой пазногаць, можна ножнічкамі ляснуць?..
Ці спілаваць напільнічкам, ну, мама?
Кабылцы лакам па капытку — будзе класна —
Чырвоным?... Або сінім. Аранжавым таксама.

# Было куль



*„Нэсэ Галя воду" з прыпевам „Hej-ho, tra-la-la, disco polo dziś wam gra".*

**— Ведаеш, тата, хто на Сустрэчах „Зоркі" быў найбольш „куль"? — спытаў мяне сямігадовы сын. Прыйшлося заглянуць у слоўнікі.**

Ангельскае слова *cool* мае многа значэнняў. Можа, між іншым, абазначаць спакойную, ураўнаважаную, халоднакроўную асобу, адным словам суперчалавека. І, бадай, у гэтым значэнні заваявала яно велізарную папулярнасць сярод моладзі ўва ўсім свеце. Сярод удзельнікаў Сустрэч „Зоркі" таксама.

Беларускай мове ўрачыста прысвоіў яго Андрэй Паплаўскі з Гарадка, выводзячы спрэем на сцэнічнай дэкарацыі родную кірыліцу: *КУЛЬ*. Затым наша музычная культура ўзбагацілася стылем народжаным у нью-йорскіх Харлеме ды Бронксе: рэпам. На такую манеру праспявалі, ці лепш прадэкламавалі, а можа нават пракрычалі маладыя (і крыху менш маладыя) удзельнікі Сустрэч добра вядомую на вяселлях і іншых застольных урачыстасцях „Ты казала, што ў суботу..." Песня была апагеем чарговага спектакля, пастаўленага падчас Сустрэч. Асабліва дапісаны прыпеў: „Скачыце ўгару, як кенгуру", які падняў з лавак публіку, не выключаючы бацькоў.

Галоўным заданнем XVI Сустрэч „Зоркі", што праходзілі на зімовых канікулах у Старыне, не была тэатральная пастаноўка, а знаямленне моладзі з журналісцкай прафесіяй. Спектакль меў даставіць забаву пасля ўтомных тэарэтычных і практычных заняткаў. Таму крыху не да месца былі страшэнна сур'ёзныя тэатральныя спробы маладога рэжысёра Сяргея Патаранскага з Мінска, які спалучыў у адно Шэкспіра, Моцарта, Сальеры, Пушкіна і вялікае каханне з фільма „Тытанік". Я так і не зразумеў, хто каго кахаў, Сальеры Моцарта, Шэкспір Пушкіна, ці наадварот.

Пасля, мякка кажучы, нуднаватага пачатку пайшоў шпаркі вадэвіль, фарс з высмакаванымі анекдотамі, адважнай ігрой акцёраў і арыгінальнай аранжыроўкай песень. Ужо адзін „Аксамітны летні вечар", як „Дэспэрада", у выкананні групавога Антося Бандэраса і лямант „а-я-я-яй" па словах „я адной табе належу, Беларусь мая", мог кінуць гледача на калені. А былі яшчэ такія шэдэўры, як „Лявоніха" ў стылі сонечнага рэгэ ці „Нэсэ Галя воду" з прыпевам: „Hej-ho, tra-la-la, disco polo dziś wam gra" і воклічамі клавішніка: „Dobrze się bawicie? Fajni jesteście! Dziewczyny piszczą, chłopaki krzyczą! Wszyscy klaszczemy"!

Як у кожнай добрай забаве, абапертай на пародыі, у спектаклі „Куль" былі звароты да ўжо гатовых твораў, так паказаных на ранейшых Сустрэчах „Зоркі", як і дзе інакш. Анэтка Яканюк з Нарвы, з дзявочым хорам, нанава праспявала складзеную ў мінулым годзе песню „Ты прыходзь пакуль не сплю". Многа творчага матэрыялу для спектакля даставілі песні мінскага „Народнага альбома".



*„Ты казала, што ў суботу" ў стылі чорнага рэпу.*

У Старыне перапрацавалі іх па-свойму, уплятаючы ў сюжэты асобы і здарэнні з багатай гісторыі Сустрэч „Зоркі".

З плеяды актораў, спевакоў і танцораў цяжка кагосьці вылучыць. Але мне здаецца, што асаблівую пахвалу заслужылі: Жанэта Роля, Мажэна Жменька, Мажэна Генішэўская, Андрэй Паплаўскі і Міхась Сцепанюк. Ну і непаўторная канферансье Аня Фіёнік. Хопіць сказаць, што ніводную песню не заказвала яна так сама апрanутая. А тыя бліскі вачэй, тыя грымасы вуснаў, тыя рухі ручак і той салодкі голас... Шкада, што толькі раз у год можа яна напоўніцу бліснуць сваім талентам. Марнуецца дзяўчына.

А паводле майго Аляксандра, у Старыне найбольш *куль* быў Міхась Сцепанюк.

**Мікола Ваўранюк**

*Фота Ганны Кандрацюк*

У тэатры Аляксандра Вянгеркі

# Першая прэм'ера



*Сцэна са спектакля-прэм'еры.*

Даўно ў драматычным тэатры імя А. Вянгеркі не было такога прадстаўлення, якое 6 лютага г.г. давялося нам убачыць у час прэм'еры „Івоны, бургундскай прынцэсы" Вітальда Гамбровіча.

Па-першае: пасля доўгага рамонту, але згодна з планам, нарэшце быў пастаўлены спектакль на вялікай сцэне тэатра, дзе сцены аж свяціліся і блакітнелі новенькія сучасныя крэслы, седзячы на якіх, ужо ніхто не будзе табе таптаць ззаду па суконцы ці касцюме, ды і стукаў будзе менш.

Па-другое: спектакль паставіў знакаміты варшаўскі рэжысёр Вальдэмар Сьмігасевіч, які не ад сёння супрацоўнічае з беластоцкім тэатрам і ставіў ужо ў нашым тэатры гэту п'есу. Усё вызначае, аднак, час, заўважыў рэжысёр, і спосаб інтэрпрэтацыі тэксту п'есы, і інсцэнізацыю, і падборку акцёраў. І таму менавіта гэта пастаноўка (ужо трэцяя ў кар'еры рэжысёра) так адрозніваецца ад папярэдніх.

Вальдэмар Сьмігасевіч ужо шмат гадоў займаецца творчасцю Гамбровіча, піша навуковыя працы і ставіць спектаклі, але кожны раз быццам адкрывае яе нанава. Зрэшты, Гамбровіч дае магчымасць інтэрпрэтаваць яго бясконца.

Сённяшняя Івона — з выгляду брыдкая і неахайная дзяўчына — чалавек нязвыклай шчырасці і прыгажосці душы. Чужая яна ў герметычным свеце каралеўскага двара. Не разумеюць тут яе кахання да прынца Філіпа. І таму яна сама згаджаецца на нарыхтаваную ёй каралеўскай світай смерць.

Рэжысёр ролю Івоны даў маладзенькай Юстыне Гадлеўскай, якая сёлета заканчвае Тэатральную акадэмію ў Беластоку. Гэта роля мела быць яе дыпломным экзаменам, які яна здала, мяркую, выдатна. Яе Івона натуральная і сардэчная і такой застаецца да канца ў гэтым свеце канвенансаў і фальшу, непрыхільным ніякім зменам, застылым у сваёй нянавісці да кагосьці цалкам іншага, адменнага.

Кракаўскі сцэнограф Мацей Праер моцна падкрэслівае факт, што ўсё тое, што рэпрэзентуе двор, ужо аджыло, устарэла. У кутку сцэны куча нейкага хламу, усё пакрыта пылам, нават чорныя касцюмы дзеючых асоб, у якіх героі выглядаюць смешна і нежыццёва.

Цяжка іграць Гамбровіча, гаварыў рэжысёр, і цяжка яго ўспрымаць гледачу. Мяркую, аднак, што тым і лепей, бо так, як абстрактную карціну, кожны глядач зможа інтэрпрэтаваць „Івону, бургундскую прынцэсу" па-свойму, дапісваючы ёй уласнае ўспрыманне свету.

Адна трэць акцёраў, занятых у спектаклі, выступае гасцінна, і гэта значна ўзбагачае спектакль (ролю прынца Філіпа, напрыклад, цудоўна іграе Павел Айгнер). Дзякуй дырэктару тэатра Анджэю Кароляку, што ў такія цяжкія часы для тэатра патрапіў усё так арганізаваць і рэалізаваць.

Прынамсі палова глядзельнай залы гэта былі ваяводскія ўлады і спонсары, якія дапамаглі тэатру пры капітальным рамонце. А колькі ж тут яшчэ трэба зрабіць! Актрысы хадзілі са скарбонкамі на ахвяры, а людзі кідалі пераважна па дзесяць злотых. І хаця пані ваявода Крыстына Лукашук дала аж сто злотых, то і так назбіралася ўсяго тысяча, чаго хапіла б, як падлічыў нехта, на два з паловай крэслы.

Калісьці пасля прэм'еры ішлі дыскусіі пра спектакль, пра ігру акцёраў ды пра мастацтва наогул. А цяпер як бы на гэта і часу няма. Цяпер трэба глядзець, з чаго ясі хлеб, дык найважнейшае — каб дагадзіць спонсарам. Сумная гэта з'ява, але няўхільная. Такава „селявуха", як кажуць французы.

Мы са свайго боку чакаем нейкага „ўсходняга" спектакля. Бадай, у Беластоку ён быў бы цалкам на месцы. І не абавязкова, каб „быццам смеючыся з нашага брата" быў пісаны.

**Ада Чачуга**

# Спаборнічалі маладыя і дарослыя

Гайнаўскі асяродак спорту і адпачынку ў час зімовых канікулаў арганізаваў футбольныя спаборніцтвы для дзяцей і моладзі за Кубак дырэктара асяродка, а таксама баскетбольны турнір для моладзі і дарослых за Кубак бурмістра Гайнаўкі.

У футбольных змаганнях прымала ўдзел каля 400 вучняў, якія ігралі ў 42 камандах падзеленых на чатыры ўзроставыя катэгорыі. Хаця спачатку змагаліся наймалодшыя, публікі заўсёды было многа, бо праходзілі сябры ігракоў, якія звычайна не займаюцца ў спартыўных гуртках. Паміж камандамі з 4 асоб адбылося 56 матчаў. У паасобных катэгорыях перамаглі ігракі „Баерна" (школа н-р 1), „Рэаля" (школа н-р 5), „Інтэра" (школа н-р 2) і „Гарланда" (комплекс прафесійных школ), а найлепшымі ігракамі сталі Каміль Тэслюк, Крыстыян Якубоўскі, Кшыштаф Семянюк і Марк Перастрэт.

У баскетбольных змаганнях удзельнічала 200 асоб у 17 камандах. Перамаглі вучаніцы Гайнаўскага беларускага ліцэя, і мужчынская каманда „Аверс", а на другім месцы апынуліся прадстаўнікі прадпрыемства „Фурнэль". Найлепшымі ігракамі сталі Магда Шаранос, Дыяна Харкевіч, Радаслаў Машчынскі і Рафал Федарук.

— Спаборніцтвы для дзяцей і моладзі ў час зімовых канікул патрэбны дзецям, якія застаюцца дома без канкрэтных заняткаў, — сказаў Уладзімір Раманюк, настаўнік фізкультуры ў падставовай школе н-р 1. — У першай палове дня наша гімнастычная зала служыла вучням нашай школы, а пасля абеду праводзіліся ў ёй гарадскія спаборніцтвы. Мерапрыемства, арганізаванае АСіА ў нашай школе, апраўдала лозунг пра бяспечныя і здаровыя канікулы са спортам, бо бацькі ведаюць, што за дзецьмі наглядаюць настаўнікі. Змаганні па баскетболу можна было б падзяліць прынамсі на дзве групы, залежна ад узроўню ігракоў, паколькі былі і такія матчы, калі атрымліваўся рэзультат 80:22, а тады матч становіцца ўжо нецікавым.

**Аляксей Мароз**

# Вярнуўся на вялікую бяду

***(заканчэнне;***
***пачатак у папярэднім нумары)***

Саветы першы раз збамбілі Кёнігсберг з нядзелі на панядзелак; загінула тады больш за 20 тысяч немцаў. А з аўторка на сераду за дзве гадзіны бамбардзіроўкі знішчылі горад датла; загінула тады 40 тысяч немцаў. Але брацьгорад саветы пачалі толькі праз месяц.

Усіх, хто астаўся ў жывых, саветы дапытвалі ў НКУС. Мяне пыталі чаму не партызаніў.

— Бо ў нас партызанкі не было, — адказаў я.

— А чаму не ўцякаў з Германіі?

— Бо не ведаў куды.

— *Пойдёшь в армию!*

Такіх, як я, саветы некалькі дзён патрымалі, падвучылі, далі ружжо і на фронт! Кінулі нас на Піляўскую касу, ваявалі мы два тыдні, але хапіла іх! Пасля нас кінулі ў прускія лясы ачышчаць іх ад нямецкіх бандаў; са мною быў яшчэ Сцяпан Ялоза з Барысаўкі. Пазней нас, чатыры дывізіі, перакінулі ў Аўгустаўскую пушчу, бо там палякі нападалі на рускіх, якія вярталіся з Германіі, грабілі іх і забівалі. Нямала там магіл нявінных людзей, што на радзіму вярталіся. А і немцы з палякамі там таксама біліся.

Мая часць стаяла ў Сувалках да позняй восені 1945 года. Сустрэў я ў горадзе і свайго знаёмага з пякарні: пасля ўцёкаў на год трапіў ён у лагер. І ў Сувалках удалося мне на кароткі час папасці ў пякарню, аднак нашу часць расфарміравалі, старэйшых дэмабілізавалі, а наш *рочнік* астаўся і я з новай часцю папаў аж у Варашылаўград. Там таксама перафарміроўвалі нас. Зрабілі экзамен, даюць „Правду":

— *Сколько классов окончил?*

— Шэсць.

— *Прочти статейку эту!*

Я прачытаў.

— *Хорошо! Принят в училище.*

Пытаюць другога:

— А ты?

— *Восемь.*

І яму далі чытаць, але ён ледзь-ледзь.

— *Х-й ты имеешь восемь классов, если не умеешь читать!*

Такім чынам я папаў у танкавае вучылішча, бо ў другія мяне не прымалі, таму што я быў у Германіі і лічылі мяне *врагом советского народа*. Пасля з *отличников боевой и политической подготовки* сфарміравалі *учебный тяжёлый танковый батальон* і вывезлі ў 1947 годзе ў Тбілісі. Там прабыў я паўгода.

Яшчэ ў Варашылаўградзе прачытаў я ў газетах, што хто з Польшчы, той мае права вярнуцца на радзіму. Я напісаў тады заяву Мікіту Хрушчову ў штаб Харкаўскай ваеннай акругі. Мне адказалі, каб я звяртаўся ў міліцыю. А я ж ваенны! Пішу я тады ў *Министерство вооружённых сил* у Маскву. Доўга кружыла тая мая заява па палявых поштах, пакуль дайшла ў Тбілісі.

Быў у нас салдат па прозвішчы Польшыкаў. Адправілі яго ў другі полк, аднак там яго не захацелі, затое ж там яму боты ўкралі. Калі ён вярнуўся, высветлілася, што гэта не *Польшиков*а, толькі Петручука з *Польши* трэба было перавесці. Знялі тады з мяне боты і аддалі Польшыкаву, а мяне і яшчэ дваіх адправілі ў той другі полк. Зайшлі мы, паглядзелі там на маё *проходное свидетельство*, а ў мяне трынаццаць *благодарностей*. Камандзір пытае мяне:

— *Как, желаешь служить у меня командиром танкового орудия?*

— *Нет, товарищь гвардии полковник*, — адказваю я, — *раз не нужен я в советском танковом училище, не желаю и у вас служить.*

Старшына, які нас прывёў, кажа:

— *Он не советский подданный.*

— *Привели двоих разгильдяев а третьего не советского подданного!*, — сказаў камандзір. — *Убрать их!*

Вярнуліся мы назад і толькі тады паведамілі мне, што я магу вяртацца на радзіму. Я гавару, што старшына боты зняў.

— *Пусть немедленно вернёт!* — адказалі мне.

Я тады да старшыны.

— *Зайди к Польшикову*, — сказаў ён, — *пусть Польшиков отдаст.*

Польшыкаў аддаў мне боты, а я ад тае радасці нават не развітаўся з таварышамі. Далі мне дакументы, абяспечылі харчамі на дарогу і ў верасні 1947 года вярнуўся я дадому.

Вярнуўся я на вялікую бяду. У акупацыю маіх бацькоў перасялілі ў чужую хату, а іх хату разабралі. Пасля вызвалення вярнуўся ўласнік тае хаты і выкінуў нашу сям'ю. Калі я прыехаў, яны жылі ў страшэннай цеснаце.

— Лепей у клуні жыць, — сказаў я.

І мы сталі жыць у клуні. Варылі на *пругменні*. Армоўцы прыходзілі нам агонь заліваць. То я аднаму так заліў, што той крывёю заліўся; і больш не прыходзілі.

Трымалі мы пару штук быдла і некалькі парасят; каня не было. Прадалі мы бычка за 25 тысяч і паехалі ў Бельск каня купляць. Адзін чалавек з Праневіч прадаваў кабылу, яму давалі ўжо больш чым 25 тысяч. А я, у форме яшчэ, стаў прасіць яго, каб прадаў нам, бо ў нас такая бяда; і ён мне прадаў. Сам я зрабіў хамут, нейкі воз быў і так стаў я гаспадарыць. Сям'ю нашу ўдалося мне пасяліць у бедных, недалужных людзей; у іх хата вялікая была, а сам усю зіму спаў у клуні, зарываючыся ў сена, і збожжа малаціў. Абрабляў я сваю і гаспадароў гаспадаркі; гаспадыня пасля мне нагавіцы за гэта купіла.

У 1948 годзе памёр мой бацька, а год пазней купіў я хатку пры дарозе ў Бялкі. Перабудаваў стадолу, пабудаваў хлявы, абгарадзіў. На восень здохла кабыла. Я скуру здзёр і адправіўся ў Бельск па страхоўку. У Рыбалы, да аўтобуса, на плячах тую скуру нёс. На аўтобус не ўспеў, але ўзялі мяне вайскоўцы на *вілюсе*. У Бельску скуры не хацелі спачатку прыняць, я стаў прасіць, што бедны і згадзіліся ў пяты клас: пяцьдзесят два кілаграмы важыла! У ПЗУ пашыхавала, хаця мае плечы смярдзелі ад тае скуры, бо адразу выплацілі мне страхоўку.

Стукнула мне трыццаць, жаніцца трэба, а дзяўчаты не вельмі хацелі выходзіць, бо бедны... Сем гадоў пасля жаніцьбы купіў я хату, дзе цяпер жыву, бо старая развальвалася. І тут зноў пабудаваўся.

* * *

Пасля размовы гаспадары настоілі пачаставаць мяне. На стале толькі чай быў *склеповы*. Хлеб свой, і свае мясныя вырабы. Каўбасы выраблены цудоўна: так, як выраблялі калісь на вёсцы, без гарадскіх прысмакаў; нагадалі мне яны шчаслівыя гады дзяцінства. І араматны свойскі хлеб. Спытаў я гаспадара, ці мо ён сам, прымусовы пекар, пячэ. Не, адказаў ён, пёк толькі адзін раз, калі жонка ў шпіталі была...

Не меў часу пячы хлеб спадар Петручук. Колькі часу трэба было будавацца і нажывацца, выходзіць з бяды. Працаваў ён цяжка на сваім, працаваў і на грамадскай ніве. У яго дыпломы: za wieloletnie oddziaływanie na postęp w rolnictwie i rozwój wsi białostockiej, za długoletnie pełnienie funkcji sołtysa wsi Trześcianka, za wysokie wyniki produkcyjne w rolnictwie i rozpowszechnianie wiedzy rolniczej, za pracę społeczną ZBoWiD, і шмат іншых. У яго адзнакі: Krzyż Kawalerski Polonia Restituta, Złoty Krzyż Zasługi, order „Za zasługi dla Związku Kombatantów RP i Byłych Więźniów Politycznych", Złota Odznaka „Zasłużony Białostocczyźnie", медаль Георгія Жукава, медаль „50 лет Победы в Великой Отечественной войне".

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Сірочая хатка

**— Не ведаю, колькі мне асталося жыцця. Лекары кажуць, што гадоў пяць яшчэ магу пацягнуць, — заплакаў Коля Юравецкі. — Двое дзетак маленькіх... Як найбольш мне імі нацешыцца... Паклікала мяне мяці з сястрой і кажуць: „Пішы тастамент. І так памрэш, то няхай хоць маці мае кавалак даху над галавой, а то прагоніць яе ў Варшаву твая Оля..."**

І не ў галаве было Вользе Юравецкай крыўдзіць сваю свякруху, матку каханага мужа. Жыві, як хочаш, рабі, што хочаш, — робім усё ж жа разам: дом будуем. Вы ж спецыяльна дзеля Колі пакінулі сваю шыкоўную кватэру ў Варшаве дачцэ з сям'ёй, прыехалі на радзіму дажываць на пенсіі. На свежым паветры бацька паправіцца, з яго сэрцам. А што Коля захварэў — чыя ж гэта віна. Рак не пытае...

Дом рос хутка, на зямлі, якую падарыў Колю і Олі дзядзька Лявон (2 гектары). Не шкадавалі здароўя Колеў бацька Раман і сам Коля, здавалася, тады мужык як дуб. А кіравала ўсім Колева маці — і грашыма, і работнікамі, і сям'ёй. Драўніну даваў Олін брат Сцяпан, не шкадаваў — гэта ж і сястрын лес, дастаўся ён па бацьку, прадзедаў яшчэ. Але як ні дзіўна — дае Сцяпан дрэвы, рэжа, ёсць ужо вокны, дзверы, дошкі на столь і падлогу, а іншы раз заедзе — няма таго! Куды падзелася? Оліна свякруха Марта распарадзілася — трэба ж плаціць крэдыты, прадала драўніну на фінскія домікі. Варшаўскім знаёмым і сябрам. Лесу ж многа! Хто там далічыцца!..

Пакуль што, жылі былі ў куточку хаты, якую даў дзядзька. Калі каркас дому амаль у дзвесце метраў вырас на ўскраіне вёскі, тады вось Коля пачаў хварэць. Але першы знядужаў Раман. Пасля другога інфаркту прасіў Коля сястру: „Вазьмі яго ў Варшаву, няхай падлечыцца, там жа дахтары лепшыя, здаецца. Хай адпачыне!" Але куды ж было браць бацьку Ілоне Рэнц — так перабудавалі сталічную кватэру, што няма куды і падзець старога.

Акрыяў крыху бацька, узяўся зноў за працу. З Колі быў ужо малы пажытак — амаль кожны месяц ляжаў у бальніцы. Оля стала на работу, пачала і студыяваць — цяпер без школы добрае працы не знойдзеш. Малая Ганубя пайшла ў садок, Адася Оля цягала з сабой або да маткі ў горад. І кожны тыдзень, снег ці дождж — да Колі ў бальніцу. Дасць Бог — пажыве яшчэ...

Першы памёр бацька, у 57 гадоў. Тады вось Ілона з маткай пазвалі Колю набок і загадалі, каб спісаў тастамент. А то раптам маці зваліцца ў Варшаву, а чаго яе там? Унукі ўжо пагадаваныя, няма патрэбы займаць месца... Хоць прапіска ў маці варшаўская.

— Гэта меў быць наш супольны дом, у якім будуць практыкавацца традыцыі шматпакаленневай сям'і, перадавацца дзецям добрыя вартасці — павага да старэйшых, да працы, сумленнасць... На жаль, так не стала. Я палічыла, што настойванне на смяротна хворага чалавека каб пісаў тастамент — гэта негуманна, — кажа Вольга. — Згадзіліся на натарыяльны одпіс. Свякруха на прынцыпах саўласнасці атрымала 1/5 часць зямлі і дому. Абяцала дапамогу ў выхаванні ўнукаў і завяршэнні пабудовы дома.

Марта Юравецкая з запалам узялася за выканчэнне сваёй часці, якую заняла не ў 1/5, а чвэрць. Настолькі гэтым занялася, што ні разу нават не наведала сына ў бальніцы. Быў салідны запас матэрыялаў — дошак, панельных ліштваў, падлог. Усё з лесу Олінага брата Сцяпана Макаўца, у большасці падараванае.

У вялікім пакоі („надпланавым", на 25 метраў больш, чым належалася маці) Коля дапамагаў нават класці падлогі. Тады Марта Юравецкая пачаставала сына чаем і пазволіла памыцца ў цёплай вадзе, бо ўжо кватэру мела з выгодамі. Прыйшоў Коля да свае хаты, у куточак, у якім прытуліў з сям'ёй яго дзядзька, і заплакаў: „Баюся я, Олечка, што не будзеш ты мець дапамогі ад мае мамы. Каб хоць толькі дала табе жыць спакойна..."

Маці „ўдзяліла" Колю гасціны ў новым доме. З гэтага вялікага пакоя яго і вывелі на могільнік.

Часць дому Колевай жонкі і ягоных дзетак стаіць пустая. Няма вокан і дзвярэй, забраны нават дошкі са столі. Падмецена кожная трэсачка з усяго матэрыялу, якога не шкадаваў Олін брат. А нават калі б і было што — спадарыня Марта Юравецкая прадала сталярную машыну, супольную ўласнасць сям'і Юравецкіх, на якую грошы (долары) пазычаць ездзілі Коля з Оляй да сябра ў Высокае-Мазавецкае. Тады цяжка з усім было — будаваліся ж у час крызісу!

Атрымала Вольга Юравецкая павестку з суда — хоча свякруха афіцыйна аддзяліць сваю частку „паводле таго, што яна вызначыць у судзе", гэта значыць, нягледзячы на тое, што заняла часць маёнтку ўнукаў. Пайшла Оля да яе: нашто вам гэта? Карыстайце, рабіце што хочаце, не будзем жа судзіцца. І так гэта ж наша. „О не, не дастанецца гэта ў твае рукі і тваім дзецям — па маім трупе!" — раскрычалася свякруха. „Я не хачу вырашаць за дзяцей, — спакойна адказала сынавая. — Вырастуць, няхай дзеляцца. Я разумею, што для вас лепшыя тыя варшаўскія ўнукі, дачныя. Гэта ваш выбар. Але чаму гэтыя мусяць плаціць за вашы выдумкі судовыя кошты?"

Усё ж прыйшлося заплаціць з дзіцячае рэнты па бацьку — суд вырашыў, што не будзе дзяліць саўласнасці, толькі акрэсліў, з чаго будзе карыстаць бабуля. Тая давай гарадзіць, каб ніхто неадпаведны не ўлез на яе падворак. А праз нейкі час зноў папала ў суд Вольгу, цяпер Мікульскую, і малалетніх удзельнікаў працэсу Ганну і Адама Юравецкіх дзеля раздзелу маёмасці. Падстава — Вольга выйшла замуж і жыве цяпер у іншай мясовасці. А яна, старушка, хоча перад смерцю справы ўладкаваць. Грошай мае ў два разы больш, чым сынавая разам з унукамі, таму можа наняць і адваката, заплаціць за новыя паперы і іншае. Кошты, як зазначыла, маюць аплаціць удзельнікі працэсу. Унукі (7 і 9 гадоў) таксама, вядома.

Страшыць сваім відам сірочы дом навадшыбе вёскі. Высокі, смалісты. Частка Марты Юравецкай — як драўляная пушачка запалак, знутры і ўсярэдзіне абабітая дошкамі з лесу, пасаджанага прадзедамі Ганусі і Адася Макаўцамі, а іхняя — зеўрае пустымі вачніцамі вокнаў.

**Лукаш Баравіцкі**

*(Прозвішчы герояў зменены)*

Успаміны з мінулай эпохі

# Іронія лёсу

Гляджу я на гэту нашу сучасную моладзь і нейк прыкра мне робіцца. Ужо надта ж нейкая далікатная, панская стала яна. Значыць не надта падрыхтаваная да сучаснага жыцця. У большасці сваёй яна мала ўстойлівая перад зменлівасцю лёсу і ўсялякімі іншымі жыццёвымі цяжкасцямі, слабенькая фізічна. Адным словам, хутка выматвае яе „мірская суета", а жыццё нашае вось якое — суровае, цвёрдае, бунтарскае. І вінавата ў гэтым, відаць, не сама моладзь, а мы — сям'я, школа, грамадства. Нават у час — як кажуць — камуны, мы бязлітасна крытыкуючы тэарэтычна панскае грамадства, на самай справе сталі пераймаць іх спосаб жыцця і манеры. Дайшло да таго, што нават высокапастаўленым камуністычным важакам у камуністычнай дзяржаве стала моцна прэстыжным мець шляхецкае паходжанне, значыць, і жыць па-панску.

Вось і атрымаўся парадокс: рыхтавалі наступнікаў сабе так, што яны больш надаюцца быць не дастойнымі гаспадарамі і будаўнікамі будучага жыцця, а хутчэй спадарожнікамі і спажыўцамі яго. І яшчэ здзіўляемся потым у чым справа, што як толькі наткнецца наша моладзь на жыццёвыя цяжкасці і перашкоды, дык адразу і пачынае „біць у хамут", па-народнаму, і „стрэсаваць", панавуковаму кажучы.

А справа тут, па-мойму, даволі ясная. Проста нядобрая наша навукова-выхаваўчая сістэма, і нядобрае сямейнае выхаванне. Мы выхоўваем сваіх дзяцей на мяккацелых беларучак.

Назіраючы ўжо за дарослымі лёсамі нашых абітурыентаў выразна праясняецца яшчэ адна парадаксальная ісціна. Аказваецца, што ў дарослым самастойным жыцці часта лепей спраўляюцца тыя, якія ў школе былі сярэднімі і нават слабенькімі вучнямі, чым нашы вундэркінды. Значыць тыя, якія былі ўзорам паводзін і ўзорам добрай навукі, і якім мы прарочылі светлую будучыню, а якія даволі часта заптываюцца на жыццёвых сцежках-дарожках і скрыжаваннях іх. Ці нават спатыкаюцца на некаторых параграфах юрыдычных кодэксаў. І наадварот, тыя, якія і не надта спраўляліся з навукай, і ніяк не маглі ўлажыцца ў рамках стандартных паводзін, тым самым выматваючы нашы педагагічныя а заадно і бацькоўскія нервы, і якім мы прарочылі мутную будучыню, часта радзяць сабе ў жыцці прыпяваючы.

І зноў жа падводзіць, па-мойму, наша навукова-выхаваўчая сістэма і падыход да здольнай і здысцыплінаванай моладзі. Вось толькі некаторыя і зусім не крайнія прыклады.

Быў у нас добра выхаваны і здольны вучань. У час чатырохгадовага прабывання яго ў нашай школе ніякіх клопатаў з ім не было, адна толькі прыемнасць і задавальненне. Акружаючае нас жыццё здавалася яму тады ўсеагульнай і безупыннай гармоніяй, а калі і ёсць штосьці кепскае ў жыцці, дык гэта рэдкія выключэнні, з якімі і трэба бязлітасна змагацца перадавой часткі чалавецтва, каб давесці іх ўжо не да нуля, дык па крайняй меры да мінімуму. Гэтым, відаць, і быў падыктаваны выбар ім будучай прафесіі.

Закончыўшы наш ліцэй і атрымаўшы атэстат сталасці, пахвалы і ўзнагароды, за першым падыходам паступіў на юрфак і без лішніх затрымак паспяхова закончыў яго.

Дамоў вярнуўся пераможцам і з грозным званнем юрыста. На работу аформіўся згодна з набытай прафесіяй, як і належыцца свядомаму чалавеку. У саму пару, здавалася б, затрыумфаваць тальнаму міру і справядлівасці ў даверанай яму мясцовасці. А і самому юрысту пара ўжо зажыць дарослым жыццём, гэта значыць, злучаючы ў адно тэорыю і практыку, бо толькі гэта можа даць чалавеку поўнае задавальненне. І магчымасць выказацца. Ён на гэта заслужыў...

На самай жа справе не трыумф і задавальненне, а самыя сапраўдныя клопаты з гэтага часу пачалі па сутнасці праследаваць нашага юрыста.

Першым, хто прыкмеціў у родным горадзе свежаспечанага юрыста былі зусім не дзеякі падшукоўваючы сабе адпаведнай пары і не начальства, а звычайны правінцыяльны злодзей-хуліган. А такое знаёмства, самі разумееце, бесканфліктным не бывае.

У чым справа, што толькі гадоў пражыў тут будучы юрыст зусім незаўважаны і бесканфліктна, калі быў амаль беззабаронны, а цяпер, ходзячы ў юрыстах, значыць, маючы ўсе параграфы за сабой, адразу быў заўважаны, чорт яго ведае. Магчыма ў нейкай ступені адчуў сябе гаспадаром у горадзе цяпер і гэты метамарфоз у яго паводзінах і справакаваў хулігана да дзейнасці.

Першая сустрэча дасюль зусім незнаёмых людзей, хулігана і юрыста, закончылася поўнай перамогай першага. Карацей кажучы, хуліган моцна збіў ахоўніка парадку.

І як не збіць яго, калі ані грошай, ані іншых каштоўнасцяў у яго кішэнях не аказалася. Пры такой няўдачы кожны разгневаўся б. Заўчаснай была гэтая сустрэча — юрыст разбагацець яшчэ не паспеў. Да таго ж, аказалася, што да фізічнай абароны наш юрыст абсалютна не быў падрыхтаваны.

Пры наступных сустрэчах, якія адбываліся не вечарком на цёмнай вуліцы, а ўжо ў зале суда і пры поўнай судовай абстаноўцы, як бы пайшло наадварот: перавагу пачаў атрымоўваць другі. У канчатковым рахунку ўсе ўдзельнікі гэтага інцыдэнту былі ў нейкай ступені ў пройгрышы. Хуліган атрымаў турэмны тэрмін, і правільна. Ахоўнік правапарадку — раны і салідныя сінякі, нядобра. Юрысдыкцыя — страціла маладога і падаваўшага надзеі юрыста, па-мойму, таксама дрэнна. Справа ў тым, што наш юрыст не мог сцярпець такога канфузу і несправядлівасці і хуценька змяніў сваю прафесію...

Даючы сваю ўласную ацэнку здарыўшамуся, трэба з поўнай адказнасцю сказаць: здарылася нядобрая справа, вельмі нядобрая. Маладога чалавека ўжо на пачатку яго самастойнай жыццёвай дарогі выбілі з уласнай арбіты, пахіснулі веру ў сябе. А аднойчы выбітаму з уласнай каляіны вельмі цяжка зноў знайсці яе. Такі ўжо парадак жыцця.

Хто ж тут вінаваты? Пакрысе ўсе: сям'я, школа, інстытут — кепска падрыхтавалі маладога чалавека да жыцця. А найбольш віны, мне здаецца, у юрфака. Выпускае спецыялістаў для такой адказнай і тыпова мужчынскай прафесіі нейк аднабакова падрыхтаваных і надта далікатных, сфемінізаваных. Веданне самых толькі параграфаў, колькі за што, аказваецца недастатковым, не больш мінімуму. З імі ўтрымацца на такой рабоце і быць карысным грамадству труднавата.

А дзе — дазвольце запытацца — фізічная і псіхічная падрыхтоўка і загартоўка? Тут проста неабходна разам з тэарэтычнымі ведамі ў кожнага будучага юрыста ўмацаваць таксама яго псіхічную ўстойлівасць і адпрацаваць салідны „капыт". Вось каб такія козыры меў наш юрыст, то і вынік гэтага інцыдэнту быў бы зусім іншы. І страт не было б, толькі выгада.

Давайце спрабуем цяпер тэарэтычна прасачыць менавіта такі варыянт.

Адным познім вечарком на цёмнай дарожцы злодзей-хуліган сустракае маладога чалавека. Гэтым чалавекам ёсць наш юрыст, аб прафесіі якога і ўсіх звязаных з гэтай прафесіяй прыметах наш шаноўны хуліган не меў яшчэ гонару ведаць. Культурны выгляд і паводзіны маладога чалавека абяцаюць злодзею лёгкую і багатую здабычу. І гэта яго прафесіянальная памылка. На грубае і недапусказдзейскае ніякіх пярэчанняў хулігана-злачыйскае патрабаванне аддаць яму свой кашалёк і ўсе іншыя каштоўнасці, атрымоўвае не іх, а маланкавы і магутны персанальны ўдар па свайму цвёрдаму хуліганскаму чэрапу — бах!!! Хуліган войкнуў і абмяк. Так сімпатычна апрацаванага хулігана наш малады чалавек ужо без прыгод, даставіўшы туды, куды і належыцца такіх дастаўляць, бадай, паспявае яшчэ туды, куды і ішоў да гэтай сустрэчы...

Як бачым, у такой развязцы і выніку зусім іншыя, намнога карыснейшыя. Папершае, невінаваты чалавек (юрыст) і фізічных і псіхічных траўм не мае. Па-другое, за лячэнне яго і бальнічны водпуск грамадства грошы не траціць. Па-трэцяе, працаёмкія і каштоўныя пошукі небяспечнага хулігана пабіўшага і аграбіўшага служаку правапарадку адпадаюць. Пачацвёртае, грошы патрачаныя грамадствам на навуку юрыста таксама не прападаюць, бо пры такім выніку юрыст не толькі не зрокся б сваёй прафесіі, а наадварот, лішні раз абагаціўся б вопытам. І па-пятае, чаго варты выхаваўчы аспект справы: мацуе веру грамадзян у тое, што праўда заўсёды перамагае.

Стратны тут толькі хуліган. У яго сінякі і раны, у яго фізічная і маральная траўма, у яго часовая няздольнасць выконваць сваю прафесіянальную работу, у яго турэмны тэрмін.

Эканамічны і маральныя аспекты прамаўляюць таксама за гэтым варыянтам, бо: па-першае, фізічныя і маральныя раны хутчэй і лягчэй гояцца ў цвёрдага крымінальнага элемента, чымсьці ў мяккацелых інтэлігентаў. Па-другое, чым меншая прафесіянальная актыўнасць падобных тыпчыкаў, тым лягчэй жывецца грамадству. І, па-трэцяе, крымінальны элемент намнога эфектыўней даецца перавыхоўвацца салідным капытам, чымсьці сухімі параграфамі.

***(заканчэнне будзе)***

**Васіль Сакоўскі**

# „Наша ніва" і ўсходняя Беласточчына

**Частка 34**

Большасць інфармацый з усходнебеластоцкага жыцця на старонках „Нашай нівы" мелі лакальны бытавы характар. Аднак акрамя дробных паведамленняў на старонках „Нашай нівы" паяўляліся больш праблемныя публікацыі, якія кранлі вельмі важныя рэгіянальныя падзеі. Да такіх публікацый трэба залічыць артыкул у 32 нумары „Нашай нівы" за 1910 год. Датычыў ён драматычнага лёсу двух прагімназіяў у Бельску-Падляшскім. Вось фрагменты гэтай публікацыі:

„Горад Бельск. У нашым горадзі закрыліся мужская і жаночая прагімназіі А. І. Бабылёвай. Столькі працы, столькі сіл паложэна на тое, каб гэтыя прыватныя прагімгазіі адкрыліся і выраслі але ж мусілі закрыцца. Прадстаўіцелі міністэрства народнай асветы увесь час не падтрымлівалі гэтае чыстае зерне. Яны толькі ўсё рабілі перашкоды, каб ім не далі правоў казённых прагімназій. Усё жыццё, што было ў Бельску, было сваркай, сплетняй, смуродам, балотам. Дык вось жменя жывых людзей сабралася каля гімназій Бабылёвай з самымі добрымі мэтамі і пачала працаваць, аддаючы свае сілы на ўзгадаванне новага пакалення. Але ж бельскае балота ўсё смярдзела і смярдзела. Дык прагімназіі павінны былі закрыцца. Бельскае балота зусім завалакло плеснявай і ўжо так яно нудзіць, нудзіць. А ўжо бывало калі дзеці гэтых самых людзей збяруцца на вечарынку, дык самі бацькі былі рады за сваіх дзяцей. Самую Бабылёву ўсе вучанікі і дзяўчаткі любілі як родную матку, маленькія дзеткі таксама не хочуць расставацца з ёю, бо яна была праўдзівая вучыцелька, каторая знае душу „маленькага чалавека". Шкада, што ў нашай старонцы не можа быць нічога жывога, праўдзівага, добрага".

Невядомы аўтар, як бачым, вельмі адмоўна ацаніў атмасферу бельскага жыцця, убачыўшы ў ім выключна адмоўныя з'явы і схільнасці. Адназначна крытычна аднёсся ён да факту закрыцця прыватных прагімназій воляй Міністэрства народнай адукацыі.

У 37 нумары „Нашай нівы" за 1910 год была змешчана інфармацыя аб беларускім адважным вандроўніку, які пастанавіў пехатой абысці ўвесь свет:

„Горад Беласток. У Беласток прыйшоў пехатой надзвычайны мендровец Мікульчык. Гэто беларус, яшчэ зусім малады хлопец, гадоў 26. Адзеты ён па сялянску, шмат пабываў ён на сваім веку. Быў шаўцом, манахам, стрэлачнікам, пісаў у расейскіх газетах, служыў у цырку. Гэтага году наважыўся пайсці пехатой кругом свету. Выйшаў з Пскова, пойдзя ў Канстантынопаль, Марсэль, Парыж і далей. За сем гадоў вернецца ў Пецярбург. Грошы Мікульчык з сабой не ўзяў і хочэ зарабіць сам па дарозе з гэтай падарожы. Маніцца ён напісаць рад атрэзкаў".

Рэдкая інфармацыя паявілася ў тым жа нумары „Нашай нівы" аб Орлі і Бельску. Апісаныя ў ім факты прыгадваюць нам тыя здарэнні, якія не раз паяўляюцца ў нашым сучасным жыцці.

„Бельск. Брукуюць тут ад мястэчка Орлі да Белавежскай пушчы дарогу. Дарога гэта толькі ўсяго чатыры вярсты мае ўдоўжкі, а пасрэднікі за яе бяруць 19 тысяч рублёў. Тым часам гэты самы падрадчыкі за каменне плацяць нашым сялянам 18 капеек. Цяпер будуць выдзіраць шасэ скончанае, каторае ўжо прынялі і грошы за яго заплачэны. Выйшла, што яно нічога не вартае і будуць яго рабіць нанава а падрадчыкі ўжо, як кажуць, выпісалі машыну, каторая будзе выдзіраць каменне з шасэ. Цікава, як выглядае такая машына? Халімон з-пад Пушчы".

**Алесь Барскі**

Адгалоскі

# Разважанні пра мінулае

Па-рознаму гаворыцца зараз пра камуну. Адны ўзвышаюць пад неба эпоху Герка і Ярузельскага, іншым мінуўшчына спалучаецца са зняволеннем і ўсялякімі бедствамі. У гэтай справе няма аднадумнасці. Яўген Мірановіч у публікацыі „Пры камуне жылося”, якая змяшчалася ў 5 нумары „Нівы” ад 31 студзеня 1999 года піша: „Пасля многагадзённых застольных размоваў са сваякамі і знаёмымі я мог толькі пераканацца ў тым, як моцна праваслаўны люд сумуе па камуне, але так і не даведаўся прычыны тае тугі па мінуўшчыне”. Паколькі аўтар не знайшоў адказу на пытанне чаму людзі сумуюць па эпосе камунізму, паспрабую даць адказ.

Паводле Я. Мірановіча, толькі праваслаўны люд сумуе па камуне. Каталікам, значыцца, камуна косцю ў горле стала. Ці не так? Тады скажыце, даражэнькія, хто ў гарадах выпісваў: „Камуна вярніся!” Праваслаўны люд?

На маю думку, па камуне сумуюць людзі, якія ў мінулай эпосе жылі „па меры магчымасці”, а зараз апынуліся за рысай беднасці. Такіх, на жаль, аграмадная маса!

У шасцідзесятых гадах з’явіліся першыя прыватныя таксі ў Гайнаўцы. Аўтамабіль з першым нумарам быў уласнасцю Аляксандра Рушука, Сашкі, як яго клікалі. „Двойку” паставіў Васька з Трывежы, „Тройку” — Мікалай Давідзюк, а „чацвёрку” — Алёша Тафілюк. Усе яны выходзілі з наваколля Гайнаўкі, з сялянскіх сем’яў.

Адкуль у іх знайшліся грошы на аўтамабіль пры беднай камуне? Вядома, бацькі запрацавалі, бо тады селяніну было адкрытае „зялёнае святло” і быў нейкі прыбытак з гаспадаркі. Вось, як успамінаюць гэты час суразмоўцы Яўгена Мірановіча. „Трымалі мы заўсёды дзесятак кароў, дваццаць свіней, шмат прадавалі мяса, малака, бульбы, жыта, быў прыбытак, штучнае ўгнаенне было таннае, салярка для трактара ў два разы была таннейшая ад малака”. А што селяніну прапануюць сёння? Адны аб’едкі! Канцы з канцамі чалавек звесці не можа! Менавіта таму людзі на вёсцы сталі ў абарону свайго быту. Ды не толькі сяляне бунтуюцца. Пратэсты працаўнікоў аховы здароўя, маніфестацыі рабочых лёгкай і абароннай прамысловасці гавораць самі за сябе.

— Ці гэта магчыма, каб мяне зараз утрымоўвала маці пенсіянерка? — са слязамі ў вачах пытала журналістку Альжбету Яваровіч (у тэлеперадачы „Справа для рэпарцёра”) працаўніца беластоцкіх „Фастаў”.

Не стану даказваць, што пры камуне ўсё было ідэальна. Многа было заганнага ў мінулым, але і бачыліся станоўчыя з’явы, таму трэба ўсё называць сваімі іменамі. На жаль, кіруючая кааліцыя, правыя парламентарыі не прызнаюць гэтых прынцыпаў. Яны карыстаюцца сваёй логікай ды імкнуцца знішчыць посткамуністаў, і тое, што камуна за сабой пакінула. А так паступалі бальшавікі пасля рэвалюцыі 1917 года. Чым жа вылучаецца сучасная дэмакратыя ад мінулай сістэмы? Пра якую свабоду гаворым? Ці тую, што нам дае Захад і Еўрапейскі Саюз? Вось што пра свабоду піша безыменны аўтар на агароджы бельскага ПЗЗу: „Tak jak giną wilki, ginie nasza wolność”. Аб якіх дабрадзейнасцях можна яшчэ гаварыць у сённяшняй рэчаіснасці? Дзе тая краіна з малочнымі рэкамі і кісельнымі берагамі? Зараз не цяжка зразумець, чаму сяляне прапануюць жывому Герку паставіць помнік.

Вось яшчэ адзін прыклад з майго наваколля: вёска Сухавольцы Кляшчэлеўскай гміны. У час камуны выраслі тут прыгожыя мураванкі. Не адна, не дзве, уся вёска. Сухавольцы лічыліся ў той час узорнай вёскай. А ўсё толькі таму, што камуна дала магчымасць узяць нізкапрацэнтныя крэдыты сялянам на пабудову. Не здзіўляе тады мяне факт, што такія людзі як сухавальчане заўсёды са слязінкай у вачах будуць успамінаць эпоху геркаўскай улады.

Спадар Мірановіч так канстатуе выказванні сялянскіх нашчадкаў: „Сентыментальныя ўспаміны эпохі камунізму праваслаўным людам (...) не маюць эканамічных каранёў, а хутчэй за ўсё цывілізацыйныя”. Я не згаджаюся з такім меркаваннем. Напрыклад, гляньце на дзяржаўную чыгунку. У мінулым на чаромхаўскай станцыі працаваў адзін начальнік, які меў двух намеснікаў. Зарплаты начальнікаў не былі тады большымі ў сярэднім ад платы дзяжурнага станцыі ці іншага кіраўніка канторы. Зараз у Чаромсе паставілі трох начальнікаў, трох намеснікаў, і ў кожнага з іх — асабістая сакратарка. Прытым трэба адзначыць, што штаты рабочых на станцыі скараціліся ў тры разы. Пра зарплаты лепш не гаварыць. Такіх прыкладаў можна было б паказваць дзесяткамі, а мо і сотнямі. Таму і я таксама сумую па мінулым.

**Уладзімір Сідарук**

# Таямніца сноў

Астрон на старонках „Нівы” добра гадае сны, хаця на мой сон з пачатку снежня 1998 года чамусьці не адказаў (адказ з’явіўся ў 7 н-ры ад 14 лютага г.г. — рэд.). Мо думае, што я навучыўся разгадваць сны ад дзядзькі Кандрата, што жыў на Рутцы і больш ведаю ад яго — Астрона. Але гэта няпраўда, бо я сноў гадаць не ўмею; на гэта патрэбны Божы дар, а я яго не маю. Сёння няма вешчуноў, якія могуць разгадаць сны. Бо розныя соннікі — гэта дурната і байкі. А калісь жылі людзі, якія паспяхова гадалі сны. Таксама і ў нас, у Дубічах-Царкоўных, былі такія. Адна была Сцепаніха (родная бабулька нашага пачэснага паэта і прафесара Янка Чыквіна), а другая — Лемяшыха.

Калісьці, на пачатку чэрвеня 1941 года, маёй маці прысніўся сон: з захаду сунецца па небе страшная чорная хмара з маланкамі і мой бацька (ён у той час прабываў над Бугам пры пабудове бункераў, пра што так многа пісаў пакойны Віктар Рудчык) прыйшоў дахаты бедна апрануты, у адной гімнасцёрцы, і прылёг на голы *запык* — тапчан. Пайшла мая маці да Сцепаніхі, якая жыла па суседску, і расказала ёй той дзіўны сон. Бабулька адказала: скора выбухне вайна і твой Валодзя вернецца з гэтай вайны на ўсё голае. Так і сталася: бацька вярнуўся на адны папялішчы, бо ўсё згарэла. А Лемяшыха адгадала сон Грышы Хамічука ў канцы 1952 года; яму прыснілася, што палова яго валос вылезла з галавы. Яна адказала яму, што застанецца паўсіратою. Так і сталася: скора яго бацька загінуў пад коламі поезда на Вітаўскім пераездзе.

Сон — гэта загадка!

**Мікалай Панфілюк**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Снілася мне, што маю хату (у сне гэта вялікі дом) нанялі цыганы на вяселле. Народу можа трыста чалавек, і малых, і старых, апранутых па-рознаму. Ёсць многа страваў смачных, я іх каштую. Але не выходжу да гасцей — аглядаюся, а я ў нейкай світцы з кужалю, а яна нейкая брудная, быццам ануча, запямленая. Потым мне сніцца, што я іду з сынам і маці кудысьці і бачым вялікае дрэва-каштан, на ім вісяць вялізныя, як вялікія яблыкі, калючыя плады. Я сарвала — а ў іх вельмі маленькія, у большасці няспелыя, каштанікі. Што будзе, Астроне? **Ніна**

Ніна! Твой сон гаворыць аб тым, што жыццё ў цябе даволі складанае. На першы погляд здаецца, што сон можа прадвяшчаць толькі добрае, але памеркаваўшы, відаць, як на далоні, што ўсё абарочваецца супроць цябе. Паглядзі сама.

Твой дом нанялі цыганы на вяселле. А цыганку ці цыгана бачыць у сне гэта здрада ў каханні, падман. Горш таго, яны нанялі твой дом на вяселле, а вяселле, яно заўсёды прадвяшчае непрыемнасць, сварку. Відаць, што гэта справа вынікне з прычыны тае здрады, падману.

Ты будзеш залежная ад некага (бо было там шмат народу), ды і па тых смачных стравах, якія ты каштавала, багацця не спадзявайся. А тут яшчэ высветлілася, што ты ў нейкай зрэбнай світцы, а яна ж да таго яшчэ брудная, запямленая. Гэты факт пацвярджае тваю крыўду, маральную ці фінансавую страту.

А пасля ты ўбачыла вялікі каштан, на якім віселі вялізныя калючыя плады, у сярэдзіне няспелыя. Каштаны ў сне наогул абазначаюць поспех у справах і каханні. Аднак жа ў цябе плады гэтага дрэва былі ненатуральна вялікія, а ў сярэдзіне — малыя, ды калючыя горш, як у жыцці... **Астрон**

# Фатаграфічнае атэлье

Фатаграфічныя паслугі ў Чаромсе патрэбны насельніцтву здаўна. Праблема вырашылася толькі з пачаткам студзеня г.г., калі фатаграічнае атэлье арганізаваў мясцовы радны Янка Кубіцкі.

— Арганізаваў я фатаграфічную майстэрню не дзеля прыбытку. Спагадаю проста старэнькім бабулькам і дзядулям, якія вымушаны былі ехаць за трыццаць кіламетраў, каб зрабіць здымкі для пашпарта. Цана ў мяне за паслугу не многа меншая, чым у Бельску ці Гайнаўцы. Ды і чатыры каляровыя фатаграфіі кліент атрымоўвае на працягу пяці мінут.

Уладальнік фотаатэлье вядзе таксама краму з тэлевізійнымі антэнамі.

— На працягу двух гадоў тавар у мяне не даражэў, — кажа Янка Кубіцкі. — Цана антэны ў мяне стабільная — 35 зл., хоць у наваколлі прадаюць яе па 45 зл.

Такіх бы нам больш прадпрымальнікаў — танных і спагадлівых. **(ус)**

# Крама пад замком

15 лютага г.г. у Новым Ляўкове пайшоў я за пакупкамі ў тамашнюю спажывецкую краму Нараўчанскай ГС. Крама тая на скрыжаванні дарог і, як кажуць, у заходным месцы ды каля пункту скупкі малака. Быў панядзелак і якраз Грамніцы. Крама — закрытая, хаця была ўжо дзевятая раніцы. Пашукаў я аб’яву, каб даведацца, калі яе адкрываюць, але дарма.

На дзвярах віселі два замкі. Так і не купіў я нічога. Дарма схадзіў. Не ведаў, ці мо крыху пазней адчыняць. Пайшоў яшчэ раз пасля абеду, а крама — далей пад замком.

Чаму ў Новым Ляўкове не інфармуюць, калі крама працуе? Гэта важна пакупнікам. Кавалачак паперы, думаю, дзе як дзе але ў прадуктовай краме знайшоўся б!

**(гай)**



На маю думку

# Слухаючы радыёперадачы

Я ўжо некалькі гадоў з’яўляюся пастаянным слухачом радыёперадач для нацыянальных меншасцей, якія транслююцца па Радыё Беласток. Слухаю не толькі беларускую „Пад знакам Пагоні” і царкоўную „Перад выхадам у царкву”, але таксама украінскую і літоўскую перадачы. Праўда, па-літоўску я не разумею, але ў іхных перадачах часта можна пачуць прыгожыя мелядычныя песні. Здараецца, што ў той самы час па тэлебачанні паказваюць цікавыя праграмы, якія таксама хацелася б паглядзець, напрыклад, „Randka w ciemno” ў I праграме па пятніцах. Тады ўключаю і тэлевізар, і радыёпрыёмнік ды адначасова гляджу і слухаю.

Мне хацелася б, каб у перадачах шырэй асвятляліся праблемы „Усходняй сцяны”. Варта паказваць жыццё сялян і пенсіянераў у апусцелых вёсках, іхныя клопаты, напрыклад, з забяспячэннем у прадукты і іншыя неабходныя тавары. У многіх вёсках крамы ўжо паліквідавалі.

Мяне асабліва ўражвае тое, што ў беларускай перадачы многа месца адводзіцца крытыцы палітыкі Беларусі, асабліва прэзідэнта Лукашэнкі, а гэта абазначае, што мы шукаем ворагаў на ўсходзе. Ва „Украінскай думцы” журналісты ў справы Украіны не ўмешваюцца.

**Мікалай Лук’янюк**


**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com
**Internet:** *(wydanie elektroniczne w przygotowaniu)*

***Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.***
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Мірослава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Камп’ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk”, ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1999 r. upływa 5 marca 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка



*Мінулы год, як ніякі іншы, абрадзіў ва ўстановы-збавіцелі беларускай культуры.*

__Фрашкі пра нашых__

## *Хата-Міша*

Хату паставіць наш Міша ў лесе.
А тая хата — дабром багата.
Такую хату — хоць у музей вешай,
Абразу іншым, што скраю, хатам!

Міша раўнуе дачы Сакрата
І сам рыхтуе вілу з віламі.
Шабаш манкуртам і неакратам!
Акрэпне крэпасць. Ну і хрэн з вамі!

**Вандал Арлянскі**

__Пародыі__

## *Адвага па-беларуску*

*Пілсудскі-дзед глядзіць на ўсход...*
**Ян Чыквін**

Пілсудскі-дзед глядзіць на ўсход,
А Сталін-дзед глядзіць з усходу.
А паміж імі доўгі плот,
Дзе я схаваўся каля плота.
Вакол асот, ды я цярплю,
І крапіва пячэ калені.
Я ж Ярузельскага люблю,
А мяне любіць прадзед Ленін.
Паўзу ля плота ў агарод,
А ў агародзе боб і рэпа.
Глядзяць з усходу і на ўсход
Два незгаворлівых Язэпа.
Дастаў з кішэні рэвальвер,
І па-пластунску — да Варшавы.
А там Квасьнеўскі ўжо цяпер —
Надзея польскае дзяржавы.
Адтуль паўзу ў СССР,
Ды ўжо няма такой краіны.
Без камуністаў я цяпер
Ледзь па дарозе не загінуў...
Пілсудскі-дзед глядзіць на ўсход,
А Сталін-дзед глядзіць з усходу.
Дзяржаў стаптаўшы агарод,
Заснуў ля роднага асоту.

**Сяргей Чыгрын**

## *Двухлітарная крыжаванка*

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 (4) | | 3 | (1) | 4 |
| (2) | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 (6) | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | (5) | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 (3) | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | (7) | (8) | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. беларускі „ласунак”, 3. Джуліо, італьянскі мастак (1492—1546), 5. скрыта размешчаны атрад войск, 7. сусед Афганістана, 9. эфіраалейная расліна сямейства парасонавых, 10. цытадэль у Бялградзе, 11. паўднёвы мыс Кіпра, 12. мусульманскі духоўны кіраўнік, 14. чалавек з вялікімі ведамі, 16. прозвішча Сакрата Яновіча, 17. дапаўненне да закону.

**Вертыкальна:** 1. судна, якое буксіруе другія судны, 2. аснова, апора, 3. народны сход, савет прадстаўнікоў, 4. кароткі тэкст на нейкім прадмеце, 6. Міхаіл, савецкі палітык, старшыня Савета Міністраў РСФСР у 1971—83 гг., 8. апытальны ліст, 9. літаратурны твор без прозвішча аўтара, 11. хлебны злак роду сорга з высокім сцяблом, 13. герметычна запаяная пасудзіна для захоўвання лякарстваў, 14. вечны агонь у дахрысціянскіх славян, 15. грашовае выражэнне вартасці тавару. **(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 3 нумара**

**Гарызантальна:** Леўскі, балуба, Прэйлі, дама, фрак, Тутанхамон, мара, Дака, Джэрмі, вісмут, ракіта.

**Вертыкальна:** Лерыда, Кіпр, Балі, Бартак, Эйзенхаўэр, матура, фронда, Малаві, карыта, джут, міра.

Рашэнне: **Кірыла Тураўскі.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** з Беластока і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

## *Вілы*

У апошнім часе паявілася ў нас г.зв. ідэя *Villa Socrates*, імітуючы чужамоўныя *Villa Decius* ці *Villa Borghese* і адказваючыся ад вельмі свойскай *хаты* — усё гэта з мэтаю прывіцця любові да роднага. А роднае, як можна дагадацца з апошніх выказванняў гэтага аб'екта аб'екта і суб'екта заадно, гэта тое, што найвыгаднейшае. А віла ж выгаднейшая ад хаты! Выгаднейшая яна таксама і ад *кучы*, і ад *халупы*, і нават ад *дому*, калі ён тутэйшы, бо ад замежнага, выгаднага — не так ужо і вельмі. Такі выгадны замежны дом называецца *house* — як у Амерыцы. Вось у Лондане, на Уэст-Эндзе, стаіць аб'ект, які называецца *Scotch House*. Гэта, — у адрозненне ад рымскай *Villa Borghese*, якая з'яўляецца мастацкай галерэяй, — магазін, у якім прадаюцца шатландскія вырабы. Адным з найбольш вядомых такіх вырабаў з'яўляецца *Scotch* — шатландская віскі. Назва *віскі* выводзіцца з кельцкага *uisge beatha*, што ў перакладзе на наша абазначае *вада жыцця*. Назва гэтая вельмі справядлівая, бо ж „вада жыцця” ставіць нямоглых на ногі. Дзейнічае яна няспешна, толькі на другі дзень — як гамеапатычнае лякарства, і часта прымае назву свайго вытворца, напр. Джоні Уокер, Напалеон, пралат Янкоўскі, Сталыпін, Гарбачоў і др.

Асмелюся тут мець прапанову, пра якую дагэтуль не згадвалася, каб, — так як у *Scotch House*, — нейкі аўтарскі напой быў і ў *Villa Socrates*. Захадаў пры гэтым спатрэбіцца нямнога, бо не трэба нічога завозіць з-за мяжы, а хопіць пакарыстацца мясцовай традыцыяй і прымеркаваць да печы выраб тутэйшага народнага мастацтва, што безумоўна ўсцешыць нашых фальклорных пaслоў; будзе *дешёво да мило*, а да таго ж яшчэ і цёпла. Завітае ў *Villa Socrates*, напрыклад, Салжаніцын і можна яму запрапанаваць *стаканчик* марожанай *Genuine Zajebesty Socrates*. Звалачэцца пявіца з *Las Vegas*, грацыёзная *Violetta Villas*, а ёй не *kuštyczek* нейкай *Bloody Mary*, толькі чашу *Socrates Dolce Rosso*. Заседзіцца Джорджык Хмялько-Хвалько — і яму *literatkę* фірменнай *Bloody Socrates* для пахмелля. А калі хто хворы, таму *Tinctura Socrates* — „ваду жыцця” на зёлках, бо ж зёлкамі лячылі і Парацэльсій, і Гален, і нават сам Гіпакрат. Ды і за мясцовасцю, удастойваемую ўсялякай знаццю, нельга каб аставалася старая — *villana*, неадпаведная новаму рангу, назва, толькі прысвоіць найфешэнебельную: *Las Villas*.

**Адам Маньяк**

**Міні-слоўнік:**

*genuine* (англ.) — аўтэнтычны;
*zajebesty* (поль.) — грандыёзны;
*Bloody Mary* (англ.) — „крывавая Мэры”, кактэйль з гарэлкі і памідорнага соку;
*dolce* (іт.) — салодкі;
*rosso* (іт.) — чырвоны;
*tinctura* (лац.) — гаючая наліўка;
*villana* (ісп.) — халопская, хамская;
*las villas* (ісп.) — мн. лік ад *villa* — халупа.

## *Кароткі курс параноі*

**Неспазнаныя шляхі твае...**

Было ў IV ст. да н. э. Піліп, цар Македоніі, запрасіў у сталіцу Пелу Арыстоцеля.

— Вучы майго ёлупа, — кажа, прадстаўляючы мысляру шалапутнага сына.

Пасяліўся мысляр у царскім хароме і ўбівае ў дубіну высокія матэрыі. А царэвічу ў галаве адно гулькі. Тым часам цар драхлее: абрыдлі яму і заваёвы і ложкавыя ўцехі. Хто прадоўжыць вялікія справы?

І прыходзіць у думаўку мудрага „Стагірыта” смелая ідэя. Ідзе ў спачывальню царыцы, гіпнатызуе ўладарку, унушаючы:

— Саня не ад Піліпа. Саня ад Зеўса!

Прачнуўшыся, царыца кліча сына і выяўляе тайну:

— Сынок, ты не ад нямоглага бацькі. Я ўбакавілася і пачала цябе з царом багоў і людзей.

І падзеі разгарнуліся ў патрэбным напрамку. Саня адчуў у сэрцы слодыч неўміручасці, а ў руках ваяцкі сверб. Стаў Ляксандрам. Расправіўся з прэтэндэнтамі на трон і антымакедонцамі. Заваяваўшы ўладу над дзяржавамі Грэцыі, пайшоў на Усход, здабываць рэшту свету.

Чым гэты усходні „дранг” кончыўся, добра ведаеце.

...........

Прайшло 2255 год (!). Бяздарнаму капралу прысніўся сон: спускаецца з неба Бог і шэпча яму на вуха:

— Адолька, ты — мая прычындала вогненная! *Ich liebe dich!..*

Прачнуўшыся, капрал абнародаваў сон і стаў фюрэрам III рэйха. Далей — як у старой эры. А ў міжчассі колькі такіх цароў і капралаў насіла наша зямля. І ўсе ганарыстыя карлікі з прыроднымі тромбамі ў мазгах, ашалелыя правіцы — з дзікім полымем у вачах, з каршуновымі кіпцюрамі. І ўсе паранаяльныя псіхапаты — „уладкоўвалі” свет у імя ілжывай місіі.

Слабая пацеха, што канчалі аднолькава — гэты гатунак гомасапуна размнажаецца самагіпнозам.

З трывогай

**Сідар Макацёр**

P.S. Заўважана: час ад часу з ліку эпітымікаў на паверхню нашага жыцця выплываюць асобы з праяўленнем паранаяльнай псіхапатыі, якія спрабуюць — не без поспеху — падпарадкаваць сабе масы.

***Факс сябравіцкага паэта Галавасцюка***

***Тромбаклёкі***

У мазгах карлаў адно тромбы:
— Напляваць, Багдад ці Рым!
Карлы вераць толькі ў бомбы,
Абажаюць прах і дым.

## *„Даўціпы” Андрэя Гаўрылюка*

Пара пенсіянераў шпацыруе ў парку.

— Помніш? — пытае яна. — У гэтым месцы сорак гадоў таму сустрэліся мы упершыню.

— Помню. Вось на той самай лавачцы зноў нейкі ёлуп чакае.

* * *

— Быў я сапраўдным ідыётам, калі жаніўся з табою.

— Што праўда, то праўда! А я тады была так закаханая, што нават гэтага не заўважыла.

* * *

Размова двух вудзільшчыкаў:

— Злавіў што?

— Чатыры шчупакі.

— Ад раніцы?

— Не, за дзесяць гадоў.

* * *

У камеры гутараць два вязні засуджаныя на пажыццёвы тэрмін:

— Жанаты ты?

— Ты хіба здурэў! Жаніцьба — гэта канец свабоды.

* * *

— Пан доктар, мне ўжо восемдзесят гадоў, а ўсё аглядаюся за дзяўчатамі...

— Павінны вы радавацца: у гэтакім узросце!..

— Так, толькі засмучае мяне тое, што забываю, чаго я за імі аглядаюся.

* * *

— Каця, скажы, ці твой Грыша дапамагае табе дома?..

— Бывае; учора сарваў лісток з насценнага календара.